© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 352
Год выд. XXXVII

Кастрычнік
1988

*Стэнаграма*

## «ПРАЎДА АБ ТРАГІЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ»

**Ад Рэдакцыі:** *Зьмяшчаем ніжэй стэнаграфічны запіс прамовы пісьменьніка Уладзімера Дамашэвіча на пленуме Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі, што адбыўся 19-20 травеня сёлета.*

*Пра аўтара гэтае прамовы, між іншага, згадаў Васіль Быкаў у сваім выступленьні на тым-жа пленуме. Нагадваючы аб тым, што пра «катастрафічны стан» беларускай мовы «гаварылі з гэтай трыбуны і 10, і 15, і нават 20 гадоў назад», В. Быкаў зазначыў: «Мы памятаем палымяныя прамовы заўсёды ўраўнаважанага У. Дамашэвіча, і ведаем, чаго гэта яму каштавала».*

*Квадратнымі дужкамі ў прамове Дамашэвіча абазначаныя пасажы, якія зьмясьціла газэта «Літаратура і Мастацтва» (3.VI) ў рубрыцы «Фрагмэнты выступленьняў». Частка матар'ялаў пленуму зьмешчаная таксама ў «ЛіМе» за 27.V.88.*

Вечная рака жыцьця нясе нас у невядомае. Чалавецтва можа толькі прыблізна згадавацца, што яго чакае наперадзе за бліжэйшым паваротам. Чалавецтва хоча бачыць і прадбачыць усё, што яго чакае наперадзе, але гэта ня так проста зрабіць. Але-ж і сёньня ў нашым жыцьці ёсьць усе тыя элемэнты, прыкметы, па якіх можна прадбачыць, як гэтыя прыкметы-зярняткі прарастуць заўтра і што яны дадуць за плады. Калі-б дзяржаўныя дзеячы больш думалі над сусьветнымі праблемамі, а менш над тым, як утрымацца на белым кані, маглі-б прадбачыць і прадухіліць шмат бедаў і няўдач. Нажаль, яны надта былі заняты сабою, захопленыя клопатамі пра сваю веліч. Зыходзячы зь няправільнага тэзісу «Народ для дзяржавы, а не наадварот», яны рабілі ўсё каб сябе ўзьвялічыць, не разумеючы таго, што прыгэтым толькі чэрняць сябе для гісторыі.

[Ні адзін геній ня можа быць мудрэйшы за свой народ. Той, хто перастае раіцца з народам, адгароджваецца ад яго, ужо не разумее свайго народу. А той, хто ідзе супроць жаданьняў народу, рана ці позна церпіць крах.] Так было са Сталінам. Крах яго бачылі яшчэ тады, калі ён узяў руль у свае нячыстыя рукі. Нажаль, не знайшлося ў яго акружэньні чалавека, які, ахвяруючы сабой, мог-бы прадухіліць катастрофу, што абыйшлася нам у дзесяткі мільёнаў чалавечых жыцьцяў. Былі зьнішчаны лепшыя людзі краіны, іх месца занялі даношчыкі і кар'ерысты. Што яны мелі, што ў іх было за душой? Адна так званая класавая нянавісьць, а хутчэй проста звычайная зайздрасьць і нянавісьць да свайго бліжняга, які разумнейшы за яго, бо працуе шчыра, не лянуецца, то нешта й мае. Яны кіравалі нашым жыцьцём шмат-шмат, амаль 50 гадоў і дакіраваліся, што ўсё стала разваливацца. Рамонтныя работы вяліся, але толькі лакіровачныя, а фундамэнт між тым расколваўся. [Сёньня мы павінны з усёй адказнасьцю перабудаваць свой дом, каб ён ад фундамэнту да самага даху быў трывалы, сьветлы і прыгожы, мы павінны ачысьціць яго ад бруду дзесяцігодзьдзяў.




*Разуменьне Беларусамі савецкага «зьліцьця нацыяў» («ЛіМ», 15.II.80).*

Адным з самых ганебных рэцыдываў таго часу застаўся няправільнае скасабочанае паняцьце нацыянальнага патрыятызму, які ўвесь час называлі нацыяналізмам]. Такое антымарксісцкае разуменьне важнага аспэкту сёньняшніх нацыянальных адносін можа прывесьці да трагедыі, як гэта ў нас дайшло ў некаторых рэспубліках. Людзі выходзяць бараніць свае законныя нацыянальныя правы на школу, на мову, на дзяржаўнасьць, а ім кажуць, што яны нацыяналісты, што яны парушаюць законы нашай дзяржавы.

Калі я хачу гаварыць дома, на рабоце, на вуліцы, у магазыне пабеларуску, мяне ўжо называюць нацыяналістам. Калі я хачу, каб на роднай мове гаварылі ўсе Беларусы, што жывуць у рэспубліцы, то я ўжо нацыяналіст у квадраце, а калі, Божа барані, я хачу, каб пабеларуску навучыліся гаварыць усе тыя, хто прыехалі да нас і даўно жывуць у Беларусі, то ўжо нацыяналіст у кубе, ні больш ні менш.

Даходзіць да поўнай прафанацыі ідэі: той, хто гаворыць не парускy, а на роднай мове, ужо нацыяналіст. Выходзіць, што? — Палову насельніцтва СССР трэба залічыць у нацыяналісты, бо яны гавораць не парускy — значыць, яны ворагі савецкай улады. Значыць, іх трэба праверваць, перавучваць да таго часу, пакуль яны не забудуць свае роднае мовы. вось тады яны стануць, выходзіць, інтэрнацыяналістамі.

Калі разумець нацыянальнае вызваленьне як магчымасьць пісацца ў пашпарце Беларусам і гаварыць парускy — дома, на рабоце, на вуліцы — то гэта ўжо не вызваленьне, а вяртаньне да таго, пра што марыў цар-бацюшка, пра што сьнілі вялікадзяржаўныя шавіністы. Калі іх ідэі ажылі, калі яны пасяліліся ў галовах сёньняшніх дзяржаўных мужоў, то гэта ня можа ня турбаваць усіх, хто любіць свой народ, яго мову й культуру.

**«...КАЛІ РУСКІЯ ПРАГЛЫНУЛІ БЕЛАРУСАЎ, ТО ХТО ДАСЬЦЬ ГАРАНТЫЮ, ШТО ЯНЫ НЕ ПРАГЛЫНУЦЬ ТАК І ЎСЕ СВАЕ НАЦЫІ Ў САЮЗЕ, А ПАСЬЛЯ І ДА НАС ДАБЯРУЦЦА?»**

Калі мы за інтэрнацыяналізм, то ён немагчымы без галоўнага, бяз роўнасьці ўсіх нацый, якія сёньня насяляюць Савецкі Саюз. Гэта разумеюць многія, толькі нашы нацыянальныя нігілісты, якія не прызнаюць за нашай мовай ніякай будучыні.

Аднойчы ў дарозе — гэта было пяць ці можа болей гадоў назад — у цягніку мне давялося гаварыць з работнікам КДБ, маёрам ці падпалкоўнікам (ён быў у цывільным, яшчэ малады чалавек). Сам Беларус і гаварыў даволі добра пабеларуску. Аднак ён усю дарогу мне даказваў, што беларуская мова адамрэ ў бліжэйшы час, бо яна падобная да рускай і таму няма ніякай патрэбы ў дзьвюх падобных мовах. Я яму даказваў адваротнае — што наша мова самая лепшая для Беларусаў і замяняць яе іншай, хоць сабе й блізкай, гэта будзе гвалт над народам, гісторыяй і справядлівасьцю, і народ гэтага не дазволіць, ні беларускі ні тым больш рускі, і што думка аб няжыцьцёвасьці нашай мовы шкодная для інтарэсаў нашай шматнацыянальнай дзяржавы. Так мы й засталіся кожны пры сваіх інтарэсах: я не зьмяніў свае думкі дагэтуль і яшчэ больш у ёй упэўніўся. А вось мой спадарожнік, які стаў ужо недзе палкоўнікам, відаць, таксама думае так, як раней. Аднак цяпер яму свае думкі ўжо трэба хаваць, бо вецер эпохі зьмяніўся. Але горш за ўсё — тое, што свае перакананьні ён можа хаваць, а рабіць паранейшаму.

Прызнацца, я ня зьбіраўся выступаць. Ці мала мы ўжо нагаварыліся, ці мала пра што сказалі. Здаецца, што гаварылі ўжо нават пра ўсе набалелыя пытаньні. Вось, думаю, у пятніцу адбыўся пленум ЦК па пытаньнях перабудовы школы, там усё будзе сказана: як жыць, што рабіць, як ісьці далей. І пра нашу шматпакутную мову будзе сказана і вырашна раз і назаўсёды. Я думаў, што ўрэшце наша кіраўніцтва вуснамі першага сакратара (*Яфрэма Сакалова — рэд. «Б-са»*) скажа шчыра перад усім сьветам і перад сваім народам, што наш урад адчувае віну перад сваім беларускім народам, хоць-бы за сваіх папярэднікаў, што, як казаў Кірыла Мазураў, «не надавалі належнага значэньня культуры народу, натуральна, і мове перш за ўсё»; што давялі свой народ да крайнасьці, што ён ужо не пазнае і не прызнае сябе самога; што трэба ўрэшце — час такі спрыяльны! — узяцца за гэту нашу бяду ўсім разам, каб вярнуць страчаныя пазыцыі; што трэба адвучаць народ ад нацыянальнай апатыі, растлумачыць яму, чаму мы, Беларусы, амаль што страцілі пачуцьцё нацыянальнай гордасьці і што гэта мо самы вялікі мінус нашага сёньняшняга жыцьця, бо кожны народ, нават самы маленькі, хоча жыць так як і ўсе іншыя: мець усё, што маюць іншыя народы, перш за ўсё права і магчы-

(*Працяг на 4-й б.*)

***Вершы з Бацькаўшчыны***

*(Друкуюцца бязь ведама й згоды аўтараў)*

**А. С.**

### У ГЭТАЙ КРАІНЕ

*Апанасу Філіповічу**

*У гэтай краіне ня маю я дому,*
*вось воблака — сяду і ў сьвет палячу*
*над гэтай гаморай, над гэтым садомам,*
*ні грошай, ні славы — я волі хачу.*

*У гэтай краіне ня маю я долі,*
*вось посах і торба, і сотні дарог.*
*Па долю пайду. Не вярнуся ніколі,*
*няхай мяне судзяць хоць людзі, хоць Бог.*

*У гэтай краіне ня маю я Бога,*
*ушчэнт разапсалі яго сьвятары:*
*дзе церні павінны насіць — носяць рогі,*
*які-ж тады Бог, калі служкі зьвяры?*

*У гэтай краіне ня маю я роду,*
*забыўся народ мой найменьня дзядоў*
*і сьвету ня бачыць далей азяроду,*
*і дзецям ня дорыць на шчасьце падкоў.*

*У гэтай краіне ня маю я песьні,*
*якая-б народнай была і маёй,*
*якую-б сябрына запела ў Бярэсьці,*
*а рэха ўзьйшло за Дняпром, за Дзьвіной...*

*У гэтай краіне не маю я дому,*
*вось воблака — сяду і ў сьвет палячу*
*над гэтай гаморай, над гэтым садомам,*
*ні грошай, ні славы — я волі хачу,*

*бо ў гэтай краіне ня маю я волі...*

*** Ад рэд. «Б-са»:** *Апанас Філіповіч (1597-1648) — беларускі грамадзкі палітычны й царкоўны дзеяч, манах, палеміст.*

* * *

**Г. Д.**

### КАЛІ ТУТЭЙШАЕ СОНЦА...

*Калі тутэйшае сонца*
*Цемру скарыць ня ў змозе,*
*Калі тутэйшыя сьлёзы*
*Ня здольны палёгкі даць, —*
*Загадквы Абаронца*
*Зьяўляецца на парозе*
*І аб боскай яе прыродзе*
*Душу прымушае згадаць.*

*І раптам крышацца краты*
*Заржаўленых забабонаў;*
*Маскі, заслоны, імёны*
*Чэзнуць, бы ў ранку туман;*
*І да д'ябла ляцяць са звонам*
*Ланцугі недарэчных законаў;*
*І душа пачухвае крылы,*
*Намуляныя да ран;*

*І ў нетрах таемных схоў*
*Глыбінь сваіх пракаветных,*
*Куды не сягне апраметны*
*Вісклівы звадлівы хор,*
*Намацвае Пэндзаль і Слова*
*Пару ключоў запаветных —*
*І адчыняе сусьветы*
*Спакойных, усьмешлівых зор.*

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ЧАМУ ТРЭБА ГАЛАСАВАЦЬ ЗА ДЖОРДЖА БУША

Беларусы, край якіх пацярпеў страшэнныя страты ў апошняй вайне, якія недалічыліся кожнага чацьвертага свайго жыхара, зацікаўленыя ў міры. Шанцы на мірнае суіснаваньне дзяржаваў з рознымі сыстэмамі, упаасобку паміж Злучанымі Штатамі й Савецкім Саюзам, узмоцніліся ў часе прэзыдэнцтва Рональда Рэйгана. Сталася гэта таму, што Прэзыдэнт Рэйган узяў рэалістычны падыход да камуністычнага рэжыму ў Маскве. З рэжымам, які прапагандуе рэвалюцыю па цэлым сьвеце, захоп улады сілаю, трэба гаварыць толькі з пазыцыі сілы. Тое, што Амэрыка Прэзыдэнта Рэйгана й зрабіла. Вынікі гэткага падыходу наяўныя: скарачэньне ракетна-ядзернае зброі, вывад войска з Афганістану, галоснасьць, гутаркі пра сталінскія злачынствы й перабудову.

Масква цяпер шукае выйсьця з эканамічнага тупіка, у які яна завяла паняволеныя народы, пазабіраўшы ад іх рэсурсы на свае ваенныя й міжнародна-падрыўныя праграмы.

Ратаваць чалавецтва сваім варыянтам камунізму («Пралетарыі ўсіх краін яднайцеся!») Крамлю цяпер ужо няма й як. Трэба ратавацца самому ад застою й дэфіцытаў. Палітыка Прэзыдэнта Рэйгана дапамагла савецкаму кіраўніцтву адумацца, што яно пайшло ня тым шляхам.

На працягу васьмёх гадоў Джордж Буш быў віцэ-прэзыдэнтам у Белым Доме, браў удзел у фармуляваньні і ўжыцьцяўляньні замежнай палітыкі. Як былы дырэктар Цэнтральнага Разьведвальнага Ўпраўленьня, былы пасол ЗША ў ААН, пасол у Пэкіне, Джордж Буш мае багатае дазнаньне ў дачыненьнях з камуністычным сьветам. Гэтае дазнаньне вельмі патрэбнае Амэрыцы сёньня, калі Масква вобмацкам шукае шляхоў у будучыню, калі ў Крамлі й паза Крамлём ідзе зацятае змаганьне паміж перабудоўцамі й рэакцыянерамі.

Джордж Буш, як прэзыдэнт Злучаных Штатаў, будзе стаяць на варце міру, добра разумеючы, што толькі ваенна моцная Амэрыка, толькі рэалізм у дачыненьні да Масквы, толькі абарона правоў паняволеных народаў і правоў чалавека гарантуюць мір у сьвеце ды памяркоўнае суіснаваньне дзяржаваў з рознымі сыстэмамі.

Мірныя дачыненьні паміж Злучанымі Штатамі й Савецкім Саюзам забясьпечаць абедзьвюм звышдзяржавам таксама ўмовы для лепшага ўзаемазразуменьня, культурнага й навуковага абмену, пашырэньня турызму, збліжэньня паміж звычайнымі грамадзянамі, а ў канчальным выніку — калі ў Савецкім Саюзе замацуецца больш дэмакратычны лад — і для пераразьмеркаваньня рэсурсаў на абніжэньне дзяржаўных дэфіцытаў і правядзеньне шырэйшых сацыянальных праграмаў.

З гэткіх меркаваньняў газэта «Беларус» выказваецца за кандыдатуру Джорджа Буша на прэзыдэнта Амэрыкі ды заклікае ўсіх сваіх чытачоў-амэрыканскіх выбаршчыкаў аддаць за яго свае галасы.

*Зь гісторыі Беларусаў Амэрыкі*

## УДЗЕЛ БЕЛАРУСАЎ У ВЫБАРАХ

Беларусы пачалі браць удзел у амэрыканскіх выбарах, як палітычная група, у 1928 годзе. Тады ў горадзе Чыкага быў арганізаваны першы беларускі палітычны клюб, які зваўся Беларуска-Амэрыканскі Грамадзкі Клюб (БАГК). На чало клюбу быў выбраны беларускі й амэрыканскі грамадзка-палітычны дзеяч Янка Чарапук-Змагар. Клюб падтрымваў кандыдатаў Дэмакратычнае партыі, у тым ліку і кандыдата на прэзыдэнта А. Сьміта. БАГК арганізаваў свае філіялы ў кольках раёнах гораду. Дэлегацыя БАГК была прынятая прэзыдэнцкім кандыдытам А. Сьмітам, які падтрымаў палітычныя дамаганьні Беларусаў.

Хоць прэзыдэнтам ЗША ў 1928 г. стаўся рэспубліканец Гэрбэрт Гувэр, беларускі палітычны клюб не развязаўся, а дзеяў далей. Клюб разгарнуў яшчэ актыўнейшую кампанію ў выбарах 1932 году. Тады паўстала таксама й беларуская рэспубліканская арганізацыя, якую ачольваў Антон Чарапук (бацька Янкі Чарапука). Беларускія рэспубліканцы вялі актыўную кампанію за І. Кобрынскага, Беларуса з паходжаньня, які кандыдаваў на пасаду справавода (клерка) Апэляцыйнага суду ў Чыкага.

Беларускія дэмакраты ў Чыкага дзеілі і ў кампаніі 1936 году.

У часе выбараў 1936 г. была і ў Нью-Ёрку спроба стварыць рэспубліканскі клюб (беларуска-ўкраінскі), які дзеяў коратка ў часе кампаніі.

У выбарах 1940 і 1944 гадоў нацыянальныя групы Амэрыкі, у тым ліку й Беларусы, бралі зусім нязначны ўдзел.

Дзейнасьць беларускіх палітычных клюбаў аднавілася аж у другой палавіне 50-х гадоў, калі пачалі актыўнічаць прадстаўнікі паваеннае хвалі іміграцыі.

У 60-х гадох былі ўтвораныя агульнаамэрыканскія кааліцыі этнічных групаў як у Дэмакратычнай, гэтак і ў Рэспубліканскай партыях. У гэтых кааліцыях былі й прадстаўнікі Беларусаў. Рэспубліканскія беларускія клюбы дзеілі больш актыўна, як дэмакратычныя, бо рэспубліканскія кандыдаты займалі выразьнейшую пазыцыю за вызваленьне паняволеных камунізмам народаў. Палітыка «з пазыцыі сілы» ў дачыненьні да Савецкага Саюзу, якую павёў Прэзыдэнт Рэйган, дала пазытыўныя вынікі.

У сёлетняй кампаніі бяруць удзел як беларускія рэспубліканскія, гэтак і беларускія дэмакратычныя клюбы. Як выглядае аднак, абсалютная бальшыня галасоў беларуска-амэрыканскіх выбаршчыкаў будзе аддадзеная за рэспубліканскага кандыдата ў прэзыдэнты, працягвальніка палітыкі Прэзыдэнта Рэйгана, Джорджа Буша.

**Вітаўт Кіпель**

## ДЗЕ СУПРАЦІЎ ПЕРАБУДОВЕ?

### У ЦК КПБ!

На пленуме Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі, што адбыўся 19-20 травеня сёлета, Васіль Быкаў сказаў («ЛіМ», 3.VI): «Так, антыперабудовачныя сілы ў рэспубліцы ня сьпяць, у культуры і ідэялёгіі яны дзейнічаюць актыўна і даволі вынікова».

У савецкай сыстэме каб магчы дзеіць «даволі вынікова», трэба быць даволі высока. Дык хто-ж гэта антыперабудоўшчык сёньня на Беларусі? І дзе ён сядзіць?

Адказаць на гэтае пытаньне памагае нам даклад Ніла Гілевіча, сакратара ўправы СП БССР, зь якім Гілевіч выступіў на тым-жа пленуме.

«Як ні парадаксальна гэта гучыць, — сказаў Гілевіч, — але родную Савецкую ўладу ў Беларусі на бок беларускай мовы яшчэ трэба сьхіліць, перацягнуць. (*Во якая «родная» гэта ўлада! — Рэд. «Б-са»*). Трэба дасягнуць становішча, каб партыйна-савецкія работнікі і беларуская інтэлігенцыя перасталі гаварыць між сабой на розных — у прамым сэньсе слова — мовах». Інакш кажучы, партыйныя функцыянеры гавораць парасейску, інтэлігенцыя (а зь ёй і народ) — пабеларуску.




*Менскія рэакцыянеры азіраюцца на маскоўскіх... («Вожык», 1988, № 15).*

Нядаўна беларускі пісьменьнік Алесь Адамовіч, якога прыхільнікі «роднай улады» выжылі зь Менску і які цяпер, жывучы ў Маскве, сьмялей піша пра сваю рэспубліку, назваў Беларусь «антыперабудовачнай Вандэяй» (Вандэя — правінцыя Францыі, дзе ў часе Францускай рэвалюцыі атайбаваліся былі рэакцыйныя сілы).

Часта выглядае, што адзін з завадатаяў кансэрватыўнай рэакцыі ў Беларусі-Вандэі — сам першы сакратар ЦК КПБ Яфрэм Сакалоў. Незважаючы на ўсе пратэсты супраць зацісканьня роднай мовы, дамаганьні аднаўленьня нацыянальнага школьніцтва, Сакалоў яшчэ ні разу не падаў голасу ў абароне законнага права беларускае мовы на тое, каб свабодна гучэць у грамадзкім і афіцыйным жыцьці рэспублікі. Сам выступаючы толькі парасейску, гэты павадыр рэакцыі пры кожнай нагодзе перасьцерагае супраць «фарсіраванага» павароту да роднай мовы. Партыйнае кіраўніцтва рэспублікі на чале з Сакаловам яшчэ ўсё ня вызбылася халуйскае псыхалёгіі часоў застойнае пары. Рэакцыйнае кодла ў Менску спадзяецца, відаць, што вятры зьменаў дзьмухнуць яшчэ назад. Але тымчасам па шмат якіх рэспубліках СССР працэс ідзе ў кірунку да рэгабілітацыі нацыянальных культураў. Беларускім патрыётам, абаронцам свае чалавечае і нацыянальнае годнасьці трэба больш арыентавацца на Прыбалтыку. Там партыйныя першыя сакратары тыпу Яфрэма Сакалова паздыманьня ўжо з пасадаў, замененыя людзьмі, якія дбаюць пра культурныя і нацыянальныя інтарэсы сваіх рэспублік. Апошняя гэткая зьмена адбылася ў сярэдзіне кастрычніка сёлета ў Літве. Там напярэдадні партыйнага пленуму першы сакратар кампартыі Літвы Сангайла, каб ня быць высьвістаным на пленуме, змушаны быў аддаць сваю пасаду новаму лідэру.

У Літве, сьледам за Эстоніяй і Латвіяй, вернуты нацыянальнай мове статус афіцыйнай мовы рэспублікі, дадзены дазвол грамадству карыстацца нацыянальнай сымболікай дасавецкага пэрыяду.

Можа й Беларусам трэба было-б пачаць высьвістваць начальнікаў, каб дамагчыся аднаўленьня правоў свае мовы, у абароне якой пагінулі тысячы сыноў і дачок беларускага народу.

**Аркадзь Будзіч**

## ЗА АДНАЎЛЕНЬНЕ «ПАГОНІ»

Нефармальныя гурты «Талака» й «Альтэрнатыва» выступілі за тое, каб магчы карыстацца публічна гэрбам «Пагоня» й бел-чырвона-белым сьцягам. У рэспубліках Прыбалтыкі публічнае выкарыстоўваньне падобнае нацыянальнае сымболікі ўжо дазволенае афіцыйна. Але на Беларусі яшчэ трэба змагацца за гэткае права з рэакцыйнымі біюракратамі.

Гэтак, супраць «Талакі» й «Альтэрнатывы» выступіла газэта «Зьвязда» (17.VIII). У рэспубліканскім друку завязалася спрэчка вакол гэтага пытаньня. Газэты часамі зьмяшчаюць галасы чытачоў і ў абарону нацыянальнае атрыбутыкі дасавецкага пэрыяду. В. Рачкоўскі, дапісчык газэты «Чырвоная Зьмена» (15.IX), увайшоў у палеміку са «Зьвяздой» на тэму «Пагоні». «Пагоня», піша ён, была на 30 з 40 харугваў войска Вялікага Княства Літоўскага. «На працягу некалькіх стагодзьдзяў, — піша віцеблянін Рачкоўскі, — гісторыя Беларусі была непарыўна зьвязана з гэтым сымвалам. 'Пагоня' зьявілася ў XVI ст. на харугвах Менску, Наваградка, Мсьціслава, Віцебску, Смаленску, Вільні, Драгічына; Берасьцейскага, Мсьціслаўскага, Менскага й г.д. ваяводзтваў, Полацкага і Рэчыцкага паветаў».

Супраціўнікі «Пагоні» аргумэнтуюць, што гэрбам гэтым карысталіся беларускія нацыяналісты ў часе нямецкай акупацыі Беларусі. На гэта Рачкоўскі адказаў: «Калі гэта так, то ў беларускія нацыяналісты трэба запісаць Аляксандра Неўскага і вялікага князя Літоўскага, а потым і караля Польшчы Ягайлу, бо гэты сымвал таксама быў іх уласным гэрбам».

## КАРДЫНАЛ ГЛЕМП НА БЕЛАРУСІ

Прымат Польскай Каталіцкай Царквы кардынал Юзэф Глемп наведаў Беларусь на запросіны Мітрапаліта Мінскага і Беларускага Філарэта. У часе трохдзённага візыту, які адбыўся на пачатку верасьня, польскі госьць пабываў у Горадні, Лідзе, Наваградку, Нясьвіжы, Менску й Пінску.

Кардынал Глемп вярнуўшыся 7-га верасьня ў Варшаву, адзначыў вялікую гасьціннасьць, зь якою яго ўсюды сустракалі. «Вялікія натоўпы вернікаў абодвых веравызнаньняў (каталікоў і праваслаўных) былі на багаслужбах і слухалі маіх казаняў», сказаў Глемп Польскаму Прэсаваму Агенцтву.

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# 18-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

## ПРАМОВА САКРАТА ЯНОВІЧА

Паважаныя Суродзічы!
Спадарыні, спадары.

Я ўдзячны свайму лёсу, які здарыў мяне нагодаю мець гутарку з Вамі. Апынуўся я тут, на амэрыканскім кантынэньце, ня столькі як турыст, які ўпяршыню пабачыў Злучаныя Штаты, а затым і Канаду... Відаць, раней або пазьней мусіла здарыцца тое. Па законе непазьбежнасьці. У пошуках усё новых і новых аспэктаў, фарбаў і сэнсу, Беларусі.

Беларусам быць, як і чалавекам, трэба нясьціхана. Штокрок і штодзень. Ня люблю сьвяточнасьці ў гэтым паняцьці. Юбілейнасьці ды наогул фэстывасьці, што гультаіць сумленьне і ўчынкі. Звальняюць ад абавязковасьці як быццам... Пасьля вясельля трэба працы.

Беларус і Беларусь, або: Беларусь і Беларус. Беларусь адна, а Беларусаў, нас, мільёны. Вось радасьць і — адначасна — сумутак наш. Як клапоцяцца дзеці пра сваю адну-ж матку, дочкі і сыны? Турбавацца — гэта не весяліцца. Прычынаў для такога адпачываньня душою і сардэчнай роскашы вяльможная пані Гісторыя нам не дала. Наадварот, яшчэ пазабірала! Бы тая сьвякруха скупая.

Як немагчымы сьвет па-за чалавекам, так немагчымая Беларусь безь Беларусаў. Наша Бацькаўшчына — не адно зямля паміж Дняпром і Дзьвіною, Нёманам і Прыпяцяй. Беларусь усюды там, дзе жыве Беларус. Бо мы — частка чалавецтва, а Беларусь — адна зь ягоных тысячных айчынаў. Таму кожная справа ў нас ёсьць вялікаю; няма малых; нічога не без значэньня. Усё зьвязанае; дзень ня бывае бяз ночы.

Дом распадаецца і ад мала заўважнае дзіры ў даху. Павольнае зьнішчаньне — самае жахлівае. Таму што зь ім зжываецца, яму не супраціўляецца. Як у пераважную бяду самотных будынкаў. Адзінота наогул дзівачыць і забівае.

Мы, Беларусы, усё будуемся. Праз увесь свой пасьлястаражытны час. Нас штораз руйнуюць, хоць анікога мы не палілі і не рабавалі. Горкая праўда: цяжка быць небандыдатам. Расьпяцце нам наканавана. Але і ўваскрашэньне. Не памрэм. Не пахаваюць нас ненавіднікі нашы. Колькі ўжо стагодзьдзяў ідзем хісткай мяжою паміж бытам і нябытам. Нават у самой Беларусі, здаецца, зроблена зь Беларуса чужынца... Выганьніка бяз выгнаньня.

Вы не на чужыне. Сірата тады, калі хаваюць бацькоў. Пакутуем ад хваробы сірочасьці, гэта так. Але толькі сьмерць не дае шанцаў. Калі-б яна зьявілася да нас, дык мы ўжо не гаварылі-б. І ня тут адбывалася-б наша сустрэча.

Нам трэба больш Беларусі ў Беларусе. Трэба Беларусаў для Беларусі. Больш беларускага ў беларускім. Як вады ў сьпякоту або хлеба ў голад, ці надзеі ў безнадзейнасьці. Гэта таму я тут, сярод Вас. Мяне ня цікавяць так вельмі сымпатыі ці антыпатыі, калі яны не перашкаджаюць беларускім інтарэсам, усяму таму, што мацуе, а не аслабляе нашу нацыю. Першай справай пасьля абароны жыцьця як такога, павінна быць абарона айчыны. Жывому Беларусу нічога ня можа быць важнейшым за жывую Беларусь, за яе душу. На гэтым сьвет трымаецца, на тым, каб ня было ў ім сірочых народаў. Птушкі маюць гнёзды свае, зьвяры маюць ямы свае, рыбы маюць віры свае, — напісаў вялікі Скарына.

Беларусы ў Амэрыцы — гэта Беларусы, як і ўсе мы. Можна жыць у Менску ці ў Беластоку і ня быць Беларусам. І такіх, хто ведае, ці — таксама! — ня мільёны... Вось у чым сутнасьць народу або зязюльчынага безгняздоўя.

Мова — гэта адзеньне духа, кажучы па-багушэвічаўску. Нас распраналі, каб мы голымі хадзілі. Каб за чужыя транты хапаліся. Дзікімі бегалі, ад роднага адбегшыся. Кінулі заставацца сабою, блуднымі сынамі пашвэндаліся... Нацыя парабкаў і фурманаў? Не!

Нішто не стаіць на месцы. Наш нацыянальны патэнцыял цяпер ня горшы ад іншых. Да тройцы вяліканаў — Купалы, Коласа, Багдановіча — дайшлі: Караткевіч, Быкаў, Брыль, Панчанка, Разанаў, Пысін, Адамчык, Барадулін, Арсеньнева, Алексіевіч, Адамовіч і іншыя. Прозьвішчы небезьвядомыя ў Эўропе, а творчасьць Васіля Быкава дасягнула сусьветнае натацыі. Замежная Беларусь перастае быць архіпэлягам хутароў, пра існаваньне якіх ведаюць усяго суседзі ў заплоцьці. Імя «беларашн» часьцей і часьцей ня пусты гук увушшу чужынца. Веліч літаратуры ўзвышае і культуру, ад якое яна вырасла. І дае сувэрэннасьць духа. Беспадлегласьць.

Калі адрозьніваем культуру ад цывілізацыі, дык павінны мы ўсьведамляць сабе, што культура магчымая толькі як нацыянальная. Гэта накшталт закону фізыкі: сусьветная культура ёсьць сума (сабор) нацыянальных. Месца, прызначанае нашай, ужо ня пустуе. І не сядзіць на ім хто іншы. Трэба нам усяляк намагацца, каб яно не цямнела і ў апошніх радах. Рабіць усё, каб добрыя беларускія кніжкі перакладалі на заходнія мовы, ангельскую перадусім.

Ранг беларускай культуры, маштабнасьць яе папулярнасьці ў сьвеце, абумоўлівае псыхалягічную сытуацыю і Замежнай Беларусі. Не шанавацьмуць таго, пра каго нічагуткі добрага ня ведаюць. Экзатычнасьць беларускага паходжаньня — сымптом слабасьці нашай ініцыятывы, арганізаванасьці. Мус не пагаджацца з гэтым. Іначай — пагражае няшчасны маразм, самаздаволенасьць, ананімнасьць. Курганны сон.

Даўно заўважана, што культура ня дзейнічае самачынна. І што нават самую разьвітую можна прыдушыць матар'яльнай нястачаю (аб чым ажно занадта пераконвае нас гісторыя). Гэта, бадай, ці не галоўная прычына таго, што маем геніяльных паэтаў, якіх ня чытаюць; магутную спадчыну ад мінулых вякоў, пра якую ведае адно жменька спэцаў. Кароткая гістарычная памяць. З такою і розум кароткі. І мала толку.

Беларусы Паўночнай Амэрыкі. Беларусы Паўдзённай Амэрыкі. Беларусы Аўстраліі. Беларусы Заходняй Эўропы. Поступ камунікацыі ды інфармацыі ператварае зямную кулю ў глябальную вёску. Пасьнедаеш у Беластоку, паабедаеш у Лёндане, а вячэраць будзеш у Нью-Ёрку... Рэвалюцыя сувязі! Ідэя Беларусі, народжаная грамадзка-палітычнымі пераваротамі, доўга не пажыла-б, калі-б не набыла яна міжнароднага кантэксту. Калі-б ня выйшла з курных хатаў на шляхі. Беларусы разыйшліся па белым сьвеце, робячыся як-бы пасланцамі свайго

*(Заканчэньне на 6-й б.)*



БЕЛАРУСКІ ЕЎФРАСІНЕЎСКІ КРЫЖ У ПРОШЧЫ МУЧАНІКАЎ У МІДЛЯНЬДЗЕ Ў КАНАДЗЕ. Тэкст на мэмарыяльнай табліцы:

Крыж гэты пастаўлены Беларусамі на адзначэньне тысячных угодкаў хрысьціянства ў Беларусі на славу Богу й Бацькаўшчыне-Беларусі.

Магутны Божа! Уладар сусьветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменьне Свае хвалы.

Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
учынкам нашым пашлі ўмалот.
Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
Краіну нашу і наш народ!

Гэты крыж быў высьвечаны ў часе 18-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі 5 верасьня 1988 г. а. Аляксандрам Надсонам, Апостальскім Вызітатарам для Беларусаў.

**Натальля Арсеньнева**

### КРЫЖ

Як вокам сьцінуць —
сьцяг пушчаў сініх,
За пушчай далеч, яшчэ сіней...
А тут, на ўзвышшы, стаіць над імі
наш крыж прыгожы, маўляў у сьне...
Шмат чулі сьвету крыжы маленьняў,
шмат просьбаў, выкліканых бядой.
Прыйшлі й мы ў прошчу прыгнуць
калені,
сьвяціць ня нечы ўжо крыж, а свой.
«Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай
краіну нашу», маліўся хор,
і ўторыў натаўп, і сьпелай нівай
хінуўся, ветру наперакор.
А вецер дужаў, кудысь аблокі
зусім павосенску ўжо плылі,
маўчала прошча, ўнізе-ж, далёка,
сінелі зарасьлі ды палі...
«Магутны Божа», бяз слоў прасілі
мы ўсе,
а рукі узьняўшы ўзвыш,
стаяў нязрушна на ўзгорку сьхіле
ён, гэткі родны ўжо сэрцу крыж...
Тут — дождж на імгненьне каменьне
спляміў,
рассыпаў кроплі ў траве, ў лісьці...
Няйнакш —
і Нехта дзесь там, над намі,
Наш крыж вадою сьвятой хрысьціў.

*Мідлянд, Канада*
*5 верасьня 1988 г.*

### КАНЕЦ ДОГМЕ ПРА НЕДЗЯРЖАЎНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ

За «круглым сталом» газэты »Зьвязда» (30.VII.88) на тэму «Паходжаньне Беларусаў» адзін з самых закаранелых дагматыкаў-абэцэдараўцаў праф. А. Залескі ў пытаньні дзяржаўнасьці Беларусі ў дасавецкім пэрыядзе павярнуў на 180 градусаў. «Цяпер насьпеў ужо ўрэшце час адкрыта прызнаць той факт, — абвесьціў Залескі, — што ў XIV-XVI стагодзьдзях Беларусь мела сваю дзяржаўнасьць. ... Вялікае Княства Літоўскае XIV-XVI стагодзьдзяў было фэдэрацыяй, у якой Беларусь зьяўлялася раўнапраўнай часткай той фэдэральнай дзяржавы. ... Прызнаньне дзяржаўнасьці Беларусі ў XIV-XVI стагодзьдзях дасьць магчымасьць правільна растлумачыць прычыну таго расквіту культуры, якога дасягнула Беларусь за фэадальны пэрыяд».

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014





# «ПРАЎДА АБ ТРАГІЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ»

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

масьць гаварыць на сваёй мове, разьвіваць сваю культуру, навуку, літаратуру на роднай мове. Думаю, што такая актыўная перабудова школы дасьць магчымасьць гаварыць пра нашы недахопы, пра нашы памылкі, перагібы ў мінулым і ў сёньняшняй культуры.

Нажаль, нічога гэтага ў дакладзе першага сакратара тав. Сакалова я не знайшоў. Ён гаварыў пра ўсё, пра ўсе аспэкты школьнага жыцьця — грунтоўна, падрабязна, нават не забыўся пра школьную мэблю, а вось пра нашу родную мову сказаў у трох абзацах. І зь іх вынікае, што ў нас усё ідзе, як трэба, што мы наладзім беларуска-рускае двумоўе і ня будзем мець ніякіх клопатаў.

Зьдзіўляюся, як можна прайсьці так спакойна міма самага балючага пытаньня ў нашым сёньняшнім жыцьці, калі вырашаецца лёс усяго народу, бо мова — гэта народ: ня будзе мовы, ня будзе народу. А нам прапануецца такі варыянт, што ў новым гмаху перабудаванай школы будзе адведзены жывы куточак беларускай мовы, як робяць у школах куток жывой прыроды. (*даўгія воплескі*) Лічу, што з такой ацэнкай нашай сёньняшняй сытуацыі беларуская грамадзкасьць ніколі ня згодзіцца. Калі ў нас не разумеюць дома, то павінны зразумець у Маскве. Масква ўжо ня тая, што была нават пяць год назад, ня кажучы пра пяцьдзесят.

Лічу, што мы тут павінны дабівацца апублікаваньня ў нашай прэсе вялікага ліста прадстаўнікоў нашай грамадзкасьці на імя генэральнага сакратара ЦК КПСС тав. Гарбачова, каб увесь наш народ адчуў... (*воплескі*), каб увесь наш народ адчуў і ўбачыў усю глыбіню прадоньня, да якога яго падвялі нашы ранейшыя кіраўнікі.

[Мы ўжо рэгабілітавалі зь вялікімі правалочкамі такіх выдатных дзеячоў першай Беларускай савецкай дзяржавы, як Зьмітро Жылуновіч (Цішка Гартны), Чарвякоў, Галадзед, Гікала і інш., мы рэгабілітавалі мо сотню беларускіх дзеячоў культуры, навукі, літаратуры, але мы не рэгабілітавалі яшчэ нашай мовы, якая ў пэрыяд сталінскага беззаконьня была растаптана, дэфармавана і аплёвана]. І мне думалася, што на нядаўным плenуме ЦК урэшце гэта будзе зроблена. Я думаў, што будзе сур'ёзная гутарка пра тое, што нам трэба прыняць тэрміновыя меры для аховы свайго нацыянальнага багацьця, роднай мовы, ад далейшага размываньня, нівэліроўкі, ад грубай асыміляцыі; што ўрэшце нам трэба вярнуцца да правапісу, які адпавядаў нормам і правілам беларускага моўнага рэжыму, які быў няшчадна закасаваны прыхільнікамі хутчэйшага зьліжэньня й зьліцьця, а практычна паглынаньня адной мовай другое, большай меншае.

І ўсе 50 апошніх гадоў савецкай улады ўсё каціласся ў такім напрамку. Наш чыноўны апарат (у тым ліку й школа) так прывык да новага статусу, што яму цяпер нават страшна падумаць, нібы можа быць інакш, а ня так як ёсьць. Як цяпер кажуць: абыйдземся і касмэтычнымі мерамі...

Здаецца, у гэтым пытаньні касмэтыкі мала і абыйсьціся ёю — гэта [Абысьці гэта пытаньне — значыць праігнараваць ня толькі думку нашай грамадзкасьці, але й далейшы лёс нашага народу, бо калі гіне мова, то гіне й народ. Гэтую простую ісьціну мы павінны давесьці да самых глухіх куткоў нашай рэспублікі і сэрцаў нашых людзей. Калі мы гэтага ня зробім, мы ня выканаем сваёй місіі, якая на нас ускладзена жыцьцём, абавязкам перад народам, яго лёсам і яго гісторыяй. У вачох наступных пакаленьняў мы паўстанем кучкай безгалосых, бясправых рабоў, якія заслужылі толькі пагарду, бо ў зорны час сваёй гісторыі ня сталі сьцяной і не даказалі свае відавочнае праўды].

Мы зусім нядаўна, толькі на 70-м годзе савецкай улады рэгабілітавалі творчасьць Алеся Гаруна. А якая была яго віна перад нашымі чыноўнікамі ад культуры? Што ён заклікаў Беларусаў не адракацца ад роднай мовы! У гэтым і была ўся яго крамола. Ён заклікаў не адракацца ад свайго, у той час як адрачэньне было масавае, і перш за ўсё адракаліся нашыя вярхі, лепшыя сыны народу, якіх ён выгадаваў, выкарміў і вывучыў, каб яны кіравалі — пэўна-ж, у інтарэсах свайго народу. Натуральна, што такі голас успрымаўся як варожы, нацыяналістычны, як успрымаўся й верш Максіма Багдановіча «Пагоня», дзе таксама ганьбуецца адрачэньне ад свайго роднага.

**«ТОЙ, ХТО СТАВІЦЬ ПАД СУМНЕНЬНЕ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ, СТАВІЦЬ ТЫМ САМЫМ ПАД СУМНЕНЬНЕ БЕЛАРУСКУЮ САВЕЦКУЮ ДЗЯРЖАВУ. А ГЭТА, МНЕ ЗДАЕЦЦА, МОЖНА КВАЛІФІКАВАЦЬ ЯК ДЗЯРЖАЎНАЕ ЗЛАЧЫНСТВА».**



*Нават дарожнага знаку ў роднай мове напісаць ня можна... («Гол. Радзімы», 11.VIII.88).*

Мы ніяк да гэтага часу не асьмелімся надрукаваць і паставіць выдатную п'есу Янкі Купалы «Тутэйшыя», і таксама толькі затое, што наш вялікі пісьняр высьмейваў тых, хто ня меў свае нацыянальнай гордасьці і годнасьці, хто баяўся ў вочы ўсім сказаць, што ён — Беларус, а не безаблічны «тутэйшы», што ён, у залежнасьці ад палітычнай пагоды, мог быць то Лукавіцыным, то Цыбулькевічам, то Цыбульскім.

Янка Купала ганьбіў адрачэньне ад свайго, як здраду роднай маці. Таму гэта лічылася вялікай крамолай. Праўда ўвогуле была ў нас доўгі час самай вялікай крамолай. Адрачэньне ад свайго пакуль што застаецца ў нас у пашане, і пакуль з гэтай зьявай мы не паконьчым, ні пра якую перабудову ня можа быць і гутаркі. Калі аб росквіце беларускай культуры будуць гаварыць нашы Беларусы на рускай мове, я ніколі не паверу іх словам (*воплескі*), як не паверыць кожны сьвядомы Беларус, бо ўсё гэта гаворыцца для турыста і замежнага госьця, якому паказваюць адзіную ў сталіцы Беларусі беларускую школу нумар 108, як бастыён беларускасьці і паказчык правільнай і справядлівай нацыянальнай палітыкі (*з залі галасы: «ня так», ня так»*)... Я ведаю, але яе паказваюць як школу, і турысты ня ведаюць, што там толькі некалькі класаў.

Пакуль мы ня выкінем на сьметнік гісторыі чорны сьцяг адрачэньня і здрады нацыянальных інтарэсаў, датуль мы ня станем паўнацэннай нацыяй — такой, якія жывуць вакол нас, побач з намі. Зь іх і толькі зь іх мы павінны браць прыклад і раўняцца, калі мы страцілі свой ідэал у сябе дома.

Калі можна аддаваць на глум і сьмяяцца з адной мовы, то чаму нельга з другой. Калі сьмяяцца, то з усіх разам. Калі паважаць, то ўсе разам. І пакуль мы ня прыйдзем да разуменьня роўнасьці ўсіх нашых моваў, датуль у нас будуць розныя нечаканасьці, што прыводзяць да чалавечых ахвяр.

Інтэрнацыяналізм не прызнае прывілей ні перад адной нацыяй: яны ўсе роўныя перад законам вышэйшай справядлівасьці. Тое-ж самае можна сказаць і ў дачыненьні да іх моваў. Той, хто ня хоча прызнаваць права дзяржаўнасьці за нашай мовай, той, фактычна, не прызнае і беларускай дзяржавы, бо бяз мовы яна ўжо не дзяржава, не рэспубліка, а нешта... (*даўгія воплескі*) ...Той, хто ставіць пад сумненьне беларускую мову, ставіць тым самым пад сумненьне Беларускую савецкую рэспубліку, гэта значыць Беларускую савецкую дзяржаву. А гэта, мне здаецца, можна кваліфікаваць як дзяржаўнае злачынства... (*воплескі*).

Ёсьць у гэтым пытаньні міжнародны аспэкт. Калі мы хочам, каб нашы камуністычныя ідэі пашыраліся і знаходзілі сабе ўсё больш прыхільнікаў за рубяжом, мы тут, у сябе дома, не павінны рабіць нешта такое, што насьцярожвае і адпалохвае людзей. Калі Саветы, скажуць нашы ідэйныя праціўнікі, праглынулі Беларусаў — або яшчэ прасьцей: калі Русія праглынулі Беларусаў, — то хто дасьць гарантыю, што яны не праглынуць так і ўсе свае нацыі ў Саюзе, а пасьля і да нас дабяруцца? (*воплескі*) Так што ня будзем даваць нашым ідэйным праціўнікам яшчэ адзін козыр супроць нас.

Хто-небудзь з залі можа сказаць, праслухаўшы маё выступленьне: а што гэта за такі Дамашэвіч, што ўсіх крытыкуе? Летась крытыкаваў загадчыка аддзелу ЦК Савелія Паўлава, Міністэрства асьветы, а цяпер вось не зграджаецца з палажэньнямі дакладу першага сакратара ЦК.

Як чалавек, я маўчаў-бы. Але маё сумленьне грамадзяніна й патрыёта не дае мне такога права. Лічу, што мы надта доўга маўчалі і дамаўчаліся да таго, што калі й цяпер прамаўчым, то будзе нам «вечная памяць».

Наш беларускі ўрад, наша кіраўніцтва ніяк ня хочуць згадзіцца з думкай грамадзкасьці, ня хочуць прызнаць рэальнай сытуацыі зь беларускай мовай у рэспубліцы, лічаць яе большменш нармальнай і нават ня думаюць вяртаць нашай мове ў рэспубліцы той статус, які яна мела першыя дваццаць гадоў савецкай улады, калі жылі яшчэ ленінскія ідэі і прынцыпы. З такім меркаваньнем мы, Беларусы, пагадзіцца ня можам і будзем усімі сродкамі і сіламі перад сьветам і людзьмі гаварыць праўду аб сваім трагічным становішчы і дамагацца справядлівасьці. Думаю, што нас пачуюць і перш за ўсё ў Маскве. (*воплескі*) У нас яшчэ жывучы прынцып: лепш ліквідаваць таго, хто паказвае на недахопы, чым самі недахопы... (*воплескі*) Гэта намнога таньней і галоўна, што ня трэба шмат варушыцца.

Па ўсім відаць, што пакуль ня будзе чалавечых ахвяр, пакуль не пральецца наша беларуская кроў, справа з адраджэньнем нашай мовы не скранецца зь месца... (*воплескі*)

Калі патрэбныя ахвяры й кроў, каб справа скранулася, прашу запісаць мяне першым... (*доўгія бурныя воплескі*).

## СПАДЧЫНА К. КАЛІНОЎСКАГА

**Фальсыфікацыя працягваецца**

Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ выдаў сёлета зборнік «К. КАЛИНОВСКИЙ. Из печатного и рукописного наследия» (выд. «Беларусь», 208 б.). Кнігу рыхтавалі: Р. Платонаў (кіраўнік), М. Сташкевіч, В. Шалькевіч і А. Гесь.

Найбольшая вартасьць новае публікацыі ў тым, што ў ёй зьмешчаныя, упяршыню ў БССР, фатастаты ўсіх сямёх нумароў газэты «Мужыцкая Праўда». Нарэшце!

Але не абыйшлося і бяз цэнзурнага ды перакладніцкага гвалту над Каліноўскім («галоснасьць»!). Усе тры лісты «з-пад шыбеніцы» зьмешчаныя з купюрамі, некаторыя зь якіх не пазначаныя шматкроп'ем. Выкінутыя шмат якія мясьціны, дзе Каліноўскі згадвае Бога. Словы «маскаль», «маскоўскі» перакладаюцца толькі як «цар/царскі», «салдат/салдацкі», ніколі як «Расеец/расейскі». Выкінутая цэлая страфа зь вершаванага ліста Каліноўскага, а першая страфа перакладзеная з выкрыўленьнем прынцыпова важнага сэнсу.

Вось арыгінал:

Марыська чорнобрэва галубка мая,
Гдзеж ся падзела шчасьце і ясна доля
Твая;
Усё прайшло, — прайшло якбы не
бывало,
Адна страшэнна горыч у грудзях
застала.

А вось пераклад:

Марыська моя, дорогая голубка,
Ты видишь, как счастье непрочно и
хрупко.
Да было ль оно? Может, это казалось?
На сердце моем только горечь
осталась.

Калі гістарычны Каліноўскі ведаў, што ў «Марыські»-Беларусі **было** «шчасьце і ясная доля» і ён адно пытаўся, «гдзеж ся падзела» ўсё гэта, дык у Платонава й Сташкевіча ўжо выйшла, што Каліноўскі наагул слаба арыентаваўся ў сваёй мінуўшчыне: «Да было ль оно? Может, это казалось?»

Р. Платонаў, кіраўнік рэдакцыйнай групы, што апрацоўвала зборнік, на плenуме Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі ў травені сёлета гаварыў пра «чыста утылітарную» ролю гісторыкаў за часамі Сталіна-Брэжнева (гл. «Беларус» № 349). Ня вызбыліся савецкія гісторыкі, прынамся ў Беларусі, поўнасьцяй гэтае ролі й дасюль. Прафанацыя гістарычнай навукі, пра што гаварыў Васіль Быкаў на тым-жа плenуме, трывае далей, хоць і не ў такім шырокім маштабе.

Спадзяёмся, што працэс вызваленьня беларускай гістарычнай навукі ад «утылітарнасьці», у выніку якога апублікаваныя нарэшце фатастаты «Мужыцкае Праўды», будзе йсьці далей ды прывядзе дасьледнікаў мінуўшчыны да поўнае свабоды.

**Я. Запруднік**

© PDF: Kamunikat.org 2014
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# ХТО ЗАБІЎ ПЯТРА МАШЭРАВА?

Імя Пятра Міронавіча Машэрава для пераважнай бальшыні савецкіх Беларусаў, безумоўна, асацыюецца з застойным пэрыядам. І ў тым многагалосым хоры партыйных функцыянераў вышэйшага рангу, які так прыгожа і складна сьпяваў хвалебныя, аж да брыдоты, песьні «самаму вернаму і пасьлядоўнаму ленінцу» Леаніду Ільічу Брэжневу, яго голас быў далёка не апошнім. Але, незважаючы на прыналежнасьць да брэжнеўскага кіраўніцтва, было ў гэтым беларускім «царку» нешта такое, што прыцягвала да яго народныя сымпатыі. Сёньня нават шмат хто сьцьвярджае, што Машэраў тымі складанымі застойнымі гадамі як мог бараніў нацыянальныя, эканамічныя ды іншыя інтарэсы рэспублікі. Сьветчыць аб гэтым павінен, нібыта, факт, што падчас ягонага кіраўніцтва забесьпячэньне беларускіх магазынаў прадуктамі харчаваньня было куды лепшае як цяпер. Ды і сам ён у адрозьненьне ад брэжнеўскай сям'і быў трохі аскетам. Ніякіх палацаў ці шыкарных віл сабе не будаваў, дзяцей трымаў даволі ў строгасьці. Любіў нават часам паказаць сябе гэткім красамоўным абаронцам «народных» інтарэсаў. У Менску да сёньняшняга дня ўспамінаюць ягоныя налёты ў ЦУМ ці ГУМ, дзе ён тэатральна перад натоўпам зявак выцягваў з закрамоў прыхаваны тавар і загадваў пераказваць яго ў продаж.

А ягоны дзіўны флірт зь беларускімі пісьменьнікамі! І сёньня ў кулюарах Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі з хваляваньнем успамінаюць, як сам таварыш Першы сакратар амаль услух зачытваўся «Лысай гарой», седзячы ў прэзыдыюме чарговага пісьменьніцкага зьезду. Любіў ён у сваёй расейскай гаворцы ўстаўляць беларускія словы, а часам і дазваляў сабе выступаць на роднай мове свайго народу. Гэтага, дарэчы, не рабіў пасьля яго ніводзін Першы сакратар ЦК КПБ.

Быў выпадак, калі ён не дазволіў адчыніць музэй гісторыі Беларускай Ваеннай Акругі, у экспазыцыі якога ня было надпісаў пабеларуску. Ёсьць нават гледзішча, што гэта ён не дазволіў распачаць канчатковае вынішчэньне беларускай мовы і культуры, што Пятро Міронавіч як мог бараніў іх ад наскокаў русыфікатараў.

Цяжка сказаць, што сярод гэтых даволі спрэчных вестак праўда, а што можна залічыць да народнай легенды. Але так ці інакш, усё гэта ў сукупнасьці спрыяла нараджэньню легенды пра Машэрава, гэроя-партызана апошняй вайны, гэткага нібыта сапраўднага абаронца народных інтарэсаў, які ўвесь час вёў няроўнае змаганьне з русафільскай партакратычнай мафіяй, з кланам Брэжнева.

Укараненьню гэтай легенды ў сьвядомасьці народных мас спрыяла і тое, што Пятро Міронавіч вельмі любіў дэманстраваць сваю заклапочанасьць праблемамі простых людзей. Калі каму-небудзь удавалася трапіць на прыём да Першага сакратара, тады блізу ўсе праблемы гэтага чалавека вырашаліся. Машэраў у такіх выпадках чыніў «справядлівасьць»: адмяняў бюракратычныя пастановы ніжэйшых партыйных інстанцыяў, раздаваў дзяржаўныя кватэры тым, хто іх патрабаваў, аднаўляў у правах і на пасадах несправядліва пакрыўджаных і да т.п. Сваім часам шмат хто расказваў гісторыю аб жанчыне, якая кінулася пад калёсы машэраўскага аўтамабіля і такім чынам атрымала магчымасьць трапіць на прыём да яго і пазьней атрымаць кватэру для сябе й сваіх дзяцей.

Гэтая легенда Машэрава жывая й сёньня. Таму невыпадкова на ягонай магіле на Маскоўскіх могілках у Менску амаль заўсёды жывыя кветкі. І прыносяць іх ня толькі тыя, каго да гэтага змушае пасада, але галоўным чынам простыя людзі. Прыносяць таму, што ня маюць пэўнасьці ў пэрспэктывах перабудовы, таму, што вераць у легенду Машэрава.

Апошнім часам, аднак, легенда гэтая набыла новыя колеры. Сталі вядомымі некаторыя вельмі спрэчныя акалічнасьці гібелі былога Першага сакратара, які, як вядома, загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Гэтыя новыя акалічнасьці сталі вядомымі падчас сьледзтва ў справе зяця Брэжнева, былога генэрал-палкоўніка Чурбанава.

Высьвятляецца, што ў сапраўднасьці аўтамабільная катастрофа была звычайным мафійным забойствам, якое арганізавалі былы міністар нутраных справаў, найлепшы сябра Леаніда Ільіча — Шчолакаў. Ужыцьцёўлена ўсё было ў лепшых традыцыях заходняга гангстэрства. Шчолакаўскія памагатыя не пакінулі пасьля сябе ніякіх сьлядоў. І калі-б не перабудова зь яе галоснасьцю, дык наўрад ці мы калі-небудзь даведаліся-б праўду аб гэтым.

Прычынай забойства, як цяпер стала ведама, былі не занадта зручныя дзеяньні брэсцкай мытні, супрацоўнікі якой перахапілі на граніцы вялікую партыю дарагіх брыльлянтаў, прызначаных асабіста для дачкі Брэжнева Галіны. Агульная вартасьць затрыманых брыльлянтаў была нагэтулькі высокая, што брэсцкія мытнікі, не зразумеўшы істоты справы, вырашылі абвесьціць гэтую сваю ўдачу як адно з галоўных дасягненьняў свае службы за ўсе гады існаваньня мытні.

Не разабраўся, відаць, і сам Машэраў, які проста быў шакіраваны коштам брыльлянтавай перадачы. Цяжка сказаць, чым кіраваўся беларускі Першы сакратар, аднак ніякія нацыскі на яго, каб замяў справу, не давалі выніку. Вось тады Шчолакаў і К° паставілі пайсці на ўжыцьцё надзвычайных сродкаў.

*(Заканчэньне на 8-й б.)*

## «ЦІ ПРЫЕЗДЗЕ ДАНЧЫК НА БЕЛАРУСЬ?»

Пад гэткім загалоўкам газэта «Літаратура і Мастацтва» (30.IX) зьмясьціла ліст у рэдакцыю, падпісаны 17 жыхарамі гор. Новаполацку. Прыезд Данчыка на Беларусь, сказана ў лісьце, вельмі важны з гледзішча на ўмацаваньне прэстыжу беларускай мовы, бо ў асобе Данчыка маем чалавека, які, ніколі ня быўшы на Беларусі, дасканала ведае й цэніць беларускую мову, чаго нельга сказаць пра шмат каго на Беларусі. Аўтары ліста заклікалі Міністэрства культуры рэспублікі й Беларускі Фонд Культуры паспрыяць Данчыкаваму прыезду ў Беларусь, дзе ён мог-бы зрабіць турнэ із сваімі цудоўнымі песьнямі.

Цэнтральная савецкая газэта «Советская Культура» (8.IX) зьмясьціла інтэрв'ю Алены Ціхановіч зь Леанідам Барткевічам, былым салістам ансамблю «Песьняры». Інтэрв'ю было ўзятае ў Менску. Леанід сказаў, што ён выяжджае ў Амэрыку на запросіны беларуска-амэрыканскага сьпевака Данчыка, зь якім ён пасябраваў у 1977 г., калі «Песьняры» прыяжджалі ў ЗША. Лёня расказаў чытачом «СК» пра Данчыка і ягоных бацькоў (маці — Беларуска, бацька — Украінец), якія захоўваюць «вернасьць славянскай культуры, мове продкаў».

## 27 МЭДАЛЁЎ З АЛІМПІЯДЫ

Беларускія спартсмэны здабылі на XXIV-й летняй Алімпіядзе ў Сэуле 27 мэдалёў: 17 залатых, 3 сярэбраных, і 7 бронзавых. Усіх медалёў каманда СССР здабыла 132 (55 + 31 + 46).

На сэульскай Алімпіядзе ад БССР была 51 асоба, рэкордны лік. На папярэдніх летніх Алімпійскіх гульнях беларускіх спартсмэнаў было: у Гэльсынках (1952) — 6, у Мэльбурне (1956) — 8, у Рыме (1960) й Токіё (1964) — па 10, Мэхіка (1968) — 15, Мюнхэне (1972) й Манрэалі (1976) — па 21, Маскве (1980) — 38.

Залатых мэдалістаў Беларусь мела: у Рыме — 4, Токіё — 3, Мэхіка — 4, Мюнхэне — 9, Манрэалі — 7, Маскве — 11, Сэуле — 15.

Славу беларускаму спорту прынесьлі чэмпіёны XXIV-й Алімпіяды: Сьвятлана Багінская (гімнастыка), Віктар Рэнэйскі (веславаньне), Вячаслаў Яноўскі (бокс), Марына Лобач (гімнастыка), Тацьцяна Лядоўская (бег), Сьвятлана Баітава (гімнастыка), Аляксандар Курловіч (цяжкая атлетыка), Камандар Маджыдаў (дужаньне), Ірына Шылова (стральба), гандбалісты Аляксандар Каршакевіч, Юры Шаўцоў, Аляксандар Тучкін, Рыгор Сьвірыдэнка, Канстантын Шараваraў; Аляксандар Раманькоў (фэхтаваньне).

(Паводля «Сельской Газеты», 11.X.88).

## ДРУК ЗША ПРА ВОЛЬГУ КОРБУТ



*Вольга Корбут з мужам Леанідам Барткевічам і Данчыкам (гідам і перакладнікам) наведваюць адзін зь небасягаў Нью-Ёрку.*

Амэрыканскія газэты й часапісы шырака пішуць пра побыт у Злучаных Штатах зоркі мюнхэнскае Алімпіяды, цяперашняга дзяржаўнага трэнера БССР Вольгі Корбут. У лістападаўскім нумары папулярнага часапісу «Лайф» зьмешчаныя тры фатаздымкі Корбут; матар'ял пра яе зьмясьцілі тыднёвікі «Тайм» (31.X); «Спортс Ілюстрэйтэд» (31.X); ілюстраваныя рэпартажы пра падарожжы Олі з мужам Леанідам Барткевічам па Амэрыцы апублікавалі газэты Нью-Ёрку, Кліўленду, Новага Арлеану ды іншых гарадоў.

Ньюёркская газэта «Ньюздэй» (18.X) нагадала сваім чытачом, што ў Мюнхэне 17-гадовая гімнастка з касічкамі «ўстанавіла стандарты ў сваім відзе спорту і, што больш, зьняла пануры выгляд, які насілі на сабе савецкія спартсмэны». Газэта зазначае, што легенда Вольгі Корбут больш папулярная ў Амэрыцы, як у Савецкім Саюзе. «Ньюздэй» паведаміла, што Вольга нарэшце здолела ўзяць удзел у цырымоніі ўводу яе ў ньюёркскую Залю Славутых Жаноцкае Спартовае Фэдэрацыі.

Вольга Корбут «усё яшчэ адзначаецца іскрыстай энэргічнасьцю», падкрэсьліла новаарлеанская газэта «Таймс-Пік'юн» (10.X).

Кліўлендзкая газэта «Сан Стар» (13.X) падрабязна апісала наведаньне Вольгай і Леанідам, падарозе зь Індыянапалісу (дзе яны, разам із сваім праваднікам-перакладчыкам Данчыкам былі гасьцямі Амэрыканскае Гімнастычнае Фэдэрацыі) суродзіў-Беларусаў у Стронгсьвіле (прыгарад гор. Кліўленду).

«Сан Стар» паведаміла, што Леанід Барткевіч і Данчык Андрусышын працуюць цяпер над супольнай кружэлкай беларускіх песьняў. Гэта будзе першы такога роду альбом, якому, ёсьць асновы спадзявацца, будзе суджаная шырокая папулярнасьць із славаю ягоным выканаўцам.

Карэспандэнты бязупынна распытваюць Вольгу Корбут пра ейную кар'еру, сям'ю, пляны. І яна гаворыць на гэтую тэму, асьвятляючы сваю гаворку аптымізмам і ўсьмешкамі.

Вольга расказвае пра сваю аўтабіяграфічную кніжку «Жыла-была дзяўчынка...» (якая мае выйсьці ў Амэрыкі ў ангельскім перакладзе); пра 9-гадовага сына Рычарда, які спрабуе сваіх сілаў у кіно і які быў адзначаны нядаўна крытыкай за ягоную галоўную ролю ў фільме «Двух на аботку сьлёзаў»; пра дзьвюх сваіх вучаніцаў-гімнастак, якія бралі ўдзел у Алімпіядзе ў Сэуле; пра свае пляны ў вышкольваньні гімнастак.

### КІНАІСТУЖКА ПАД АРЫШТАМ

Дакумэнтальны фільм кінастудыі «Беларусьфільм» (рэжысэр А. Рудэрман, апэратар Ю. Гарулёў) зрабіў ураджаньне «ўзарванай бомбы», паводля маскоўскай «Литературной Газеты» (3.VIII.88). У фільме расказваецца, як з рэдакцыі Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі выкінулі навуковую супрацоўніцу І. Шэлянкову за тое, што яна «выступіла супраць вульгарных ацэнак (у БелСЭ) творчасьці мастака Маркі Шагала».

Фільм пра звальненьне Шэлянковай з працы і ейную судовую справу, якую яна прайграла (у дзеяньне супраць Шэлянковай пайшло «тэлефоннае права»), знаходзіцца цяпер у Менску «практычна пад арыштам», піша «Л. Г.».

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



# ПРАМОВА САКРАТА ЯНОВІЧА

*(Заканчэньне зь 3-й б.)*

народу ў чужой старане. Прэзэнтантамі яго інтарэсаў. Спрыяючы далучэньню Бацькаўшчыны да агульначалавечае радзіны. Учыняць Беларусь прысутнаю сярод іншых. Прыдбаць ёй сяброў. Захоўваць ад крыўды.

Зьнікае паняцьце эміграцыі. Як адзінкавае і грамадзкае бяды. Прымусу пакінуць роднае. Сядзібы Пашкевічаў у Тароньце, Курылаў у Нью-Джэрзы ды Яновічаў у Крынках. Розьніцы паміж імі ня болей, чым у катэгорыях іхнай цывілізаванасьці ды прыроднакліматычных умоваў. Можна сказаць: Беларусь на лініі Крынкі — Таронта — Нью-Джэрзы... Колькі такіх падобных ужо ёсьць і будзе?

Аніводзін народ не пацярпеў ад гэтага, што дзеці ягоныя ідуць у шырокі сьвет, у людзі. А разам зь імі мова й культура. Адкрытасьць можна параўнаць (дзеля кантрасту) з зачыненым пакоем бязь сьвежага паветра, у якім няма чым дыхаць і хварэюць ад анэміі. Беларусы Паўночнай Амэрыкі нямала намагаліся, каб беларускі чалавек перастаў быць нейкім нячуваным дзівам, а ягоная духоўнасьць нечым лішнім. Накшталт: хочаш — жыві, ня хочаш — ня жыві, як сабе хочаш...

Беларускі кампанэнт. Іншы раз, можа быць, і не падумаецца, як моцна служыць ён Бацькаўшчыне... Яе самаадчуваньню. Ёсьць мэдычны сылягізм: ад настрою залежыць стан нэрвовай сыстэмы, якая лімітуе работу органаў арганізму, і ў канчатковым выніку — здароўе. Гэта зусім не раўназначнае з тым, што дурная весялістасьць гарантуе даўгавечча...

Вы — грамадзяне дзяржаваў, жыць у якіх — вашая доля. Ні трохі не пярэчыць гэта жаданьне заставацца Беларусамі, маючы пашпарт Злучаных Штатаў або Канады, як і нам з пашпартам Польскай Народнай Рэчыпаспалітай. Дабіваючыся дабрабыту і кар'еры, узмацняем гэтым ня толькі сваё асабістае становішча. Павялічваючы ўласнае значаньне — павялічваем патэнцыяльныя магчымасьці служэньня і беларускай справе як інтэгральнай з унівэрсальнымі інтарэсамі.

Няма такога маральнага права, якое забараняла-б заступацца за маці-бацьку. Цяжка ўявіць сабе культурны ўрад, які палічыў-бы за здрадніка таго ўласнага падданага, хто ня выракся айчыны свайго або продкаў паходжаньня. Гэта маральнасьць, без якое чалавек страчвае чалавечнасьць і пачынае нагадваць сабою нават ня жывёльнае стварэньне зь ягонымі інстынктамі гнязда, апякунства, мацярынства. Кіравацца філязофіяй жывата — гэта канец канца. Руіна і пустазельле.

Праўда, што інтарэсы той ці іншай дзяржавы ня мусяць адпавядаць далёкай нацыі. Але прынамся ў адным існуе аксыёмная нясумненнасьць: ніхто не адважваецца ўголас жадаць сьмерці іншаму. Гэта тая новая этычна-маральная сытуацыя, якая выклікае ў нас столькі надзеі на лепшае. На нармальнасьць, урэшце.

Мы, Беларусы, па сваёй гістарычна складзенай няшчаснасьці, носім у сабе поўны асартымэнт комплексаў. Гэта так. Трэба быць самакрытычным, каб ня грэзнуць у ілюзіях. Фальшывая ацэнка спараджае фальшывыя высновы, а затым і незапраўдныя, нерэальныя пляны. Хаценьне ўспрымаем — нярэдка як рэчаіснаснае. Міражная фатамаргана. Характэрная ўсякім слабым. А будучыня не нябожчыкам належыць.

Стаім над той магілаю, у якой ужо нямала рассыпалася ў прах, вядомых і невядомых нам, народаў. На беразе Гадэсу не спрачаюцца. Гэта прывілея тым, у каго няма большай бяды. На ложы сьмерці адпушчаюць грахі. I толькі. «Не пакідайма-ж мовы сваёй беларускай, каб ня ўмёрлі...».

Яшчэ ня дыхаем на паніхіду. Маем усё, што трэба, і як ніколі дагэтуль, каб устаць цьвёрда на ногі й пайсьці далей. У тлуме жывых. Самы бяздарны лекар скажа: і найлепшы лек, калі ў яго ня верыш, не дапаможа табе. Часам вера даводзіць аж да цуду... Пэўна, замала яе ў нас. Зачаста Беларус — рэаліст да тае крайнасьці, ад якой прасьціраецца пустыня бязьдзейнасьці. Сумна славутае нашае: «Усё будзе добра, толькі нічога ня трэба рабіць...».

Вера — гэта нешта большае за надзею. Бо хто верыць, той не сядзіць склаўшы рукі.

**Сакрат Яновіч**

***З ЖЫЦЬЦЯ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ***

## ГОСЬЦЬ ЗЬ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Сакрат Яновіч наведваў розныя мясьціны сьвету ды з Божае ласкі завітаў і ў Кліўленд, штат Агаё. Перад людзьмі, што сабраліся паслухаць ягоны маналёг, рассыпаў ён жмені слоў, як быццам зь сявенькі. Я раскажу, што я асабіста чуў ды як успрыняў.

Галоўнай праводнай думкай Сакратавай было што мы, Беларусы, мусім быць вольныя ад падданства духовага, ад зьняволеньня. Расказваў ён аб сваёй кніжцы «Беларусь, Беларусь». На гэтай тэме й сканцэнтравалася большая частка гутаркі ў форме пытаньняў і адказаў.

Беларус апісаў Беларусь у польскай мове для Палякоў, паказаў злыбядзь суседзяў. Тое злыбядзь, што закоўвае душу. А розум, як парашут, ён функцыянуе толькі тады, калі адкрыты. Сакрат адкрыў парашут. Асобу не ўзнагароджваюць за тое, што мае мазгі, а за тое, што іх ужывае. Пісьменьнік, як сяўбіт ці агароднік, расьсейваў праўду ды зразуменьне, рабіў гэта з адвагаю, вераю, добрым рассудкам, з зацятасьцяй. Узбураная рэчка слоў цякла паводкаю на страх панявольнікам, на збаўленьне прыгнечаным.

Ведама, што няма большай заганы як абыякавасьць. Кніжку няхай прачытае кожны. Я яе прачытаў.

**Юрка Каляда**

## ПАДАРОЖЖЫ БЯЗЬ ВІЗАЎ

Як падала маскоўская газэта «Труд» (15.X), ад наступнага году савецкія грамадзяне змогуць наведваць сацыялістычныя краіны, карыстаючыся толькі сваім нутраным пашпартам, а не спэцыяльным замежным пашпартам, як цяпер.

***«ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ»***

Выйшаў першы нумар «рэлігійнаграмадзкага інфарматара» Беларускае сэкцыі Ватыканскага радыё. У нумары: выясьняецца мэта публікацыі (пераказ зьместу беларускіх радыяперадачаў), інфармацыя пра важнейшыя падзеі з жыцьця Царквы). Зьмешчаны пачатак біяграфіі першага кіраўніка Беларускае праграмы радыё-Ватыкан пралата Пятра Татарыновіча, дадзеная хроніка важнейшых паведамленьняў пра дзейнасьць Папы Яна Паўла II, нататка пра 1000-годзьдзе хрысьціянства ў Беларусі ды зьвязанае з гэтым пытаньне беларускай каталіцкай іерархіі й юрысдыкцыі.

***З ЖЫЦЬЦЯ Ў КАНАДЗЕ***

## ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

**Нарада з прадстаўніком Міністэрства Шматкультуралізму**

Стараньнем кіраўніцтва Згуртаваньня Беларусаў Канады 24 верасьня адбылася нарада прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў Канады із сп. Расэлам Бартанам, прадстаўніком Міністэрства Шматкультуралізму (МШ). Сп. Бартан адказны за сувязь зь некаторымі этнічнымі групамі, у тым ліку й беларускай. Мэтай нарады было дасьледаваць магчымасьці дапамогі з боку МШ у разьвіцьці арганізацыйнага беларускага жыцьця ў Канадзе. Адно з галоўных заданьняў МШ — памагаць этнакультурным групам захоўваць і разьвіваць іхную культурную самабытнасьць.

Нараду вяла др. Раіса Жук-Грышкевіч, старшыня галоўнай управы ЗБК. Сп. Бартан расказаў пра этнакультурныя праграмы МШ, прадставіў крытэрыі на атрыманьне фінансавай дапамогі. МШ памагае: 1. Разьвіваць арганізацыйнае жыцьцё этнічнай групы. 2. Разьвіваць культурную спадчыну. 3. Навучаць спадчынную мову. 4. Разьвіваць сцэнічнае й нагляднае мастацтва. 5. Праводзіць канфэрэнцыі вывучэньня этнічнай спадчыны. 6. Спрыяць пісьмовай творчасьці й выдавецтву.

У выніку нарады ЗБК прыняло пастанову апрацаваць праграму дзеяньня. Заплянавана арганізаваць зьезд прадстаўнікоў Беларусаў з розных правінцыяў Канады, які выпрацаваў-бы канкрэтную праграму дзеяньня на мясцох.

Зьезд будзе арганізаваны Каардынацыйным Камітэтам Беларусаў Канады і плянуецца на 1-2 красавіка 1989 году.

Просьба й заклік да вас, Беларусы Канады, якія прачытаеце гэтую зацемку, лічыць сябе актыўнымі ўдзельнікамі гэтай задумы, удзельнікамі Зьезду Беларусаў Канады! Да пабачаньня на зьезьдзе!

**Раіса Жук-Грышкевіч**

***З ЖЫЦЬЦЯ Ў НЬЮ-ЁРКУ — НЬЮ-ДЖЭРЗЫ***

## СУСТРЭЧЫ З САКРАТАМ ЯНОВІЧАМ

У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку адбыліся 8 кастрычніка сустрэча із сп-твам Сакратам і Таняй Яновічамі і Сакратаў літаратурны вечар.

Пісьменьнік расказаў пра свой жыцьцёвы шлях — няспрыяльныя ўмовы здабываньня асьветы, складаныя абставіны пісьменьніцкай і грамадзкай працы; прачытаў свае мініятуры — лірычныя, філязофскія, часта элегійныя. Аўтару прыемна было пераканацца ў азнаёмленасьці аўдыторыі зь ягонымі творамі. Ён адказаў на пытаньні слухачоў пра характар ягонае творчасьці, ягоны пагляд на мінуўшчыну Беларусі, жыцьцё Беларусаў Беласточчыны, кантакты паміж Беларусамі Польскай Народнай Рэспублікі й БССР.

Наступнага дня, у нядзелю, у залі Беларускага Грамадзка-Рэлігійнага Цэнтру ў Гайленд-Парку, Н.-Дж., пасьля багаслужбы, у гонар Яновічаў было наладжанае прыняцьцё. Сп. Міхась Тулейка, старшыня аддзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы, у сардэчнай прамове вітаў дарагіх гасьцей ад імя ладнае грамады ўдзельнікаў урачыстасьці. «Мы цэнім, — сказаў прамоўца, звярачаючыся да пісьменьніка, — Вашую грамадзкую й літаратурную дзейнасьць, у якой так моцна праяўляецца Вашая любоў да Бацькаўшчыны-Беларусі, любоў у радасьці й смутку, любоў, зь якою Вы перамагаеце ўсе цяжкасьці, любоў, якая дае Вам стымул да творчай дзейнасьці».

Сакрат Яновіч расказаў пра Беларусаў Беластоцкага Краю, пра сваю літаратурную й журналістычную працу, прачытаў колькі сваіх мастацкіх замалёвак-мініятурак, у якіх ён адначасна і ўніклівы назіральнік жыцьця, і паэт, і выдатны знавец народнага слова.

Яновічаў віталі: Янка Запруднік, Васіль Русак, Пётра Кажура, Янка Азарка, Галіна Русак, Зіна Туронак, Юрка Азарка, Антон Шукелайць, Браніслаў Даніловіч. Усе прамоўцы выказалі шчырую ўдзячнасьць сп-тву Яновічам за іхную грамадзкую ахвярнасьць, далі высокую ацэну літаратурнай творчасьці пісьменьніка, адзначылі ягоную выдатную ролю й высокі аўтарытэт у колах беларускае студэнцкае моладзі ў ПНР.

Сакрат Яновіч, дзякуючы за прыняцьцё, з гумарам зазначыў, што ад гэтулькі пахвалы яму «аж цяжка на ногі ўстаць». Але, дадаў, «мне толькі 53-ці год, то яшчэ ўстою». Гаворачы пра беларускую Амэрыку, зазначыў: «Мне аж ня верыцца, што ў Амэрыцы можна езьдзіць уздоўж і ўпоперак і карыстацца толькі беларускай мовай». Па сустрэчах з амэрыканскімі й канадзкімі Беларусамі, сказаў пісьменьнік, ён варочаецца дамоў «менш закамплексаваны, больш выпрастаны, падахвіцэраны».

Сп-тва Яновічы наведалі таксама беларускую царкву Сьв. Еўфрасіньні й Беларускі Грамадзкі Цэнтар у Саўт-Рывэры.

**Я. З.**

***З ЖЫЦЬЦЯ Ў ЧЫКАГА***

## СП-ТВА ЯНОВІЧЫ Ў ЧЫКАГА

Ведамы беларускі пісьменьнік зь Беласточчыны Сакрат Яновіч з жонкай Таняй наведаў ад 17-га па 26 верасьня сваіх суродзічаў у Чыкага, 20-га верасьня зрабіў даклад у царкоўнай залі беларускай каталіцкай царквы Хрыста Збавіцеля аб беларускім жыцьці-быцьці ў Беласточчыне.

Госьці сустрэліся таксама з парафіянамі беларускай праваслаўнай царквы Сьв. Юр'я. Выявілася, што новапрыбылы настаяцель гэтай царквы, а. Кастусь Бандарук — сваяк сп-ні Яновіч.

Сп-тва Яновічы затрымаліся ў доме др. Вітаўта й Веры Рамукоў, якія на працягу тыдня паказалі наведнікам усе найцікавейшыя пункты Чыкага. Былі яны таксама гасьцямі ў сям'і др. Анатоля Занковіча.

Сактар Яновіч даў інтэрв'ю др. В. Рамуку на беларускай радыяпраграме «Нёман», якую вядзе сп. Нікадэм Жызьнеўскі (гл. гэтым нумары «Менскае выданьне эміграцыйнай літаратуры»).

***НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД***

*Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва атрыманыя ахвяры:*

| | |
|---|---|
| А. Слонімскі | $U.S. 1000 |
| У і Л. Брылеўскія | 80 |
| К. Вортс | 50 |
| М. Смаршчок | 30 |
| С. Нарушэвіч | 18 |
| | 1178 |

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



*З ЖЫЦЬЦЯ Ў ЗАХ. АЎСТРАЛІІ*

## ПАМЯЦЬ ПРА Я. КУПАЛУ

У сыботу першага тыдня ліпеня Беларусы гор. Пэрту й ваколіцаў сабраліся ў Беларускі Народны Дом, каб адзначыць угодкі нараджэньня Песьняра беларускага народу — Янкі Купалы. Зьмястоўны рэфэрат пра Купалу прачытаў паангельску старшыня Беларускага Аб'еднаньня ў Зах. Аўстраліі сп. М. Раецкі малодшы, закончыўшы сваё выступленьне дэкламацыяй Купалавага вершу «На сход!» у перакладзе Веры Рыч. Пабеларуску пра цярністае жыцьцё Песьняра гаварыў М. Р.

Урачыстасьць закончылася агульным пачастункам.

## НА ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў УКРАІНЦАЎ

Дэлегацыя Бел. Аб'еднаньня ў складзе сп-няў З. Ёлаб і М. Мароз узяла ўдзел у сьвяткаваньні ўкраінскай грамадой у Зах. Аўстраліі 1000-годзьдзя хрышчэньня Кіеўскай Русі. У ўкраінскай каталіцкай царкве ў Майляндсе была адслужаная ўкраінскім праваслаўным і каталіцкім духавенствам супольная багаслужба, пасьля якое адбылося прыняцьцё.

## НОВАЯ ЎПРАВА БАЎЗА

13-га жнівеня ў Беларускім Народным Доме адбыўся справаздачна-перавыбарны сход Беларускага Аб'еднаньня. Із справаздачаў, зробленых старшынём управы М. Раецкім малодшым, скарбнікам А. Марозам старэйшым ды кіраўніком Беларускае радыёпраграмы ў Пэрце М. Раецкім, вынікала, што ўправа добра выканала ўскладзеныя на яе абавязкі, за што дастала падзяку.

У новую ўправу былі выбраныя: Леў Дамброўскі — старшыня, Міхась Раецкі малодшы — заступнік, А. Мароз малодшы і М. Ёлаб — сакратары, А. Мароз старэйшы — скарбнік.

Новай управе жадаем добрых удачаў.

**Р.**

*З ЖЫЦЬЦЯ Ў НЬЮ-ЁРКУ*

## ФЭСТЫВАЛЬ СЛАВЯНСКАЙ КУЛЬТУРЫ

Традыцыйны фэстываль славянскай культурнай спадчыны, у якім бяруць удзел і Беларусы, адбудзецца сёлета ў першай палавіне сьнежня ды ў канцы студзеня.

Славянская мастацкая выстаўка будзе адчыненая 5-га сьнежня (а 6:30 увечары) і будзе працаваць 6-10.XII (ад 3-й пап. да 7-й веч.) у Польскім Народным Доме (155 Noble St., Greenpoint, Brooklyn).

6-га снежня а 7-й гадз. ўвечары ў Украінскм Інстытуце Амэрыкі (2 East 79 St., Manhattan) адбудзецца афіцыйнае адчыненьне Фэстывалю з музычнай праграмай і пачастункам. Там-жа на наступны дзень (чацьвер, а 7-й увечары) будзе праведзены вечар паэзіі й музыкі (з пачастункам пясьля праграмы).

Канцэрт славянскіх танцаў, у якім бярэ ўдзел і ведамы беларускі танцавальны ансамбль «Васілёк», адбудзецца ў Лінкольнскім Цэнтры Мастацтваў (заля імя Аліс Тулы) у сыботу 28 студзеня 1989 году. Будуць дадзеныя два сэансы: а 2:30 папаўдні і а 8-й увечары. Летась шмат каму не давялося пабыць на гэтым папулярным канцэрце, бо не хапіла білетаў. Білеты й сёлета трэба набываць загадзя.

## ДА СКАРЫНІНСКАГА ЮБІЛЕЮ

У БССР 500-я ўгодкі ад нараджэньня беларускага першадрукара Францішка Скарыны будуць адзначацца юбілейнымі ўрачыстасьцямі ў кастрычніку 1990 году. Да таго часу, як сказала старшыня арганізацыйнага камітэту, намесьнік Старшыні Савету Міністраў БССР Н. Мазай («Зьвядза», 30.VIII.88), былі (будуць) арганізаваныя, заснаваныя, створаныя, выданыя: цэнтар беларускай пісьменнасьці імя Ф. Скарыны ў Менску; музэй гісторыі беларускага кнігадрукаваньня ў Полацку; двусэрыйны тэлефільм пра жыцьцё й дзейнасьць Скарыны; опэра Дзьмітрыя Смольскага «Францыск Скарына» (лібрэта Марыны Клімковіч); скарынінскі стыпэндыя для студэнтаў гуманітарных ВНУ; скарынінскі мэдаль, паштовая марка; імя Скарыны будзе прысвоена вялікаму караблю ды астранамічнаму целу (зорцы).

### НА БЕЛАРУСКАЕ РАДЫЁ Ў ПЭРЦЕ (З. АЎСТРАЛІЯ)

Склалі ахвяры:

| | |
|---|---|
| Др. Б. Кіт | аўстр. д. 336 |
| Англа-Бел. Т-ва (Лёндан) | 37 |
| М. і М. Мігаль (Тасманія) | 100 |
| Бел. Аб'едн. ў З. Аўстраліі | 300 |

Усім шчыры беларускі дзякуй!

**Міхась Раецкі**
**Кіраўнік Бел. Праграмы**

## ЗАЛАТЫ МЭДАЛЬ БАГДАНА ПАЎКЕ

У «Голасе Радзімы» за 18 лютага сёлета была зацемка пад заг. « «Папоўнілася калекцыя… узнагарод», у якой гаварылася, што ў канцы мінулага году ў Капэнгагэне праходзіла сусьветная філятэлістычная выстаўка «Хафнія-87». «Сярод пецярых удзельнікаў, якія прадстаўлялі ў Даніі філятэлістаў Савецкага Саюзу, — паведаміў «ГР», — быў мінчанін Леў Коласаў, актыўны аўтар рубрыкі 'У вашу калекцыю' ў нашай газэце. Яго збор 'Пошта Савецкай Беларусі' атрымаў на выстаўцы «Хафнія-87» вялікі сярэбраны мэдаль».

А хто-ж быў шчасьліўцам, які здабыў залаты мэдаль на тэй-жа выстаўцы? Быў ім ніхто іншы як наш чыкагавец сп. Багдан Паўке, які гадамі займаецца філятэлістыкай, паказваючы сваю калекцыю на беларускую тэматыку ды атрымоўваючы ўзнагароды й мэдалі. Ягоны збор марак і паштовак «Беларуская паштовая гісторыя (1915-1922 гг.)» на міжнароднай выстаўцы марак «Амэрпакс '86» быў узнагароджаны сярэбраным мэдалём. А летась у кастрычніку ў Вене ў Аўстрыі на міжнароднай выстаўцы паштовых марак яму быў прысуджаны залаты мэдаль.

Мы ганарымся нашым філятэлістам сп. Багданом Паўке ды зычым яму далейшых удачаў.

Было-б цікавым і карысным, калі-б нашыя філятэлісты зь Менску й Чыкага дамовіліся зрабіць супольную выстаўку беларускіх калекцыяў у Злучаных Штатах.

**Вера Рамук**

## БЕЛАРУСКАЯ СТРАВА Ў МАСКВЕ

Газэта «Ўол Стрыт Джэрнал» (15.IX.88) падала складзены колькі месяцаў перад тым амэрыканскім пасольствам у Маскве сьпіс каапэратыўных рэстаранаў сталіцы, сярод якіх названы адзін зь беларускай стравай — рэстаран «Покровка» на вул. Чарнышэўскага 4 (тэл.: 923-02-82, мэтро Ногіна).

## БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІЯ НАВУКОВЫЯ СУВЯЗІ

Пашыраецца супрацоўніцтва паміж навуковымі цэнтрамі ЗША і АН БССР. Група амэрыканскіх вучоных наведала Гомель, дзе абмяркоўваліся шляхі пашырэньня супрацоўніцтва, выданьня савецка-амэрыканскай кнігі з трабалёгіі (цярцё й знос цьвёрдых целаў). У амэрыканскім выдавецтве «Алертон Прэс» выходзіць савецкі часапіс «Трение и износ», які выдаецца на базе Інстытуту мэханікі мэталапалімерных сыстэмаў АН БССР.

(Паводле «Голасу Радзімы», № 32, 11.VIII.88).

# БЕЛАРУСКІ ВЕЧАР У ААН

Сёмага кастрычніка ў Нью-Ёрку ў Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў у бібліятэцы імя Дага Гамэршыльда адбыўся Беларускі вечар. Вечары гэткія сталіся ўжо традыцыйнымі, яны адбываюцца ў часе працы Генэральнай Асамблеі. Арганізуюцца яны ад імя Клюбу Расейскай Кнігі, які дзеіць пры бібліятэцы ААН, з удзелем Місіі БССР. На вечары запрашаюцца дыпляматы іншых дзяржаваў, Амэрыканцы: прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, студэнты мясцовых каледжаў. Праграмы гэткіх вечароў улучаюць выступленьні прадстаўнікоў БССР, у тым ліку беларускіх пісьменьнікаў, выстаўкі, паказ беларускіх фільмаў ды частаваньні беларускімі (а часта й не беларускімі) стравамі.

Сёлетняя праграма ня мела выступленьня беларускага пісьменьніка, затое меў прамову дэлегат на Генэральную Асамблею Фёдар Алейнік. Прамова ягоная (фактычна не прамова, а чытаньне з паперкі) складалася з даўгога пераліку статыстыкі ды плянаў рэспублікі на будучыню. Ані слоўцам, аднак, дэлегат не абмовіўся аб змаганьні беларускае інтэлігенцыі за абнаўленьне школьніцтва, за захаваньне нацыянальнае культуры, мовы. Алейнікава прамова зрабіла на публіку — а публікі было шмат — даволі цяжкое ўражаньне. Прамова ягоная была дапоўненая, менш-больш у тым-жа стылі, фільмам-хронікай «Беларуская ССР у 1988 годзе». У гэтым фільме паказаная галоўна прамысловая вытворчасьць рэспублікі, нічога спэцыфічна беларускага ў ім ня было.

Затое другі фільм, асноўны нумар праграмы вечару, мастацкая кінаістужка «Белыя Росы» (сцэнарый Алеся Дударава, рэжысура Дабралюбава) быў вельмі цікавы і ўдалы. У ім адлюстравана сягоньняшняе жыцьцё беларускае вёскі: глыбокія й нялёгкія людзкія праблемы, працэс урбанізацыі селавой мясцовасьці, выкарэньваньне традыцыяў і г.д. Фільм пакідае надзвычай моцнае ўражаньне. Мова ў фільме беларуская (выглядала, што ў некаторых мясьцінах гэта быў сынхронны пераклад). Даўгімі воплескамі аўдыторыя падзякавала і стваральнікам фільму і арганізатарам вечару за ўключэньне яго ў праграму. Пасьля адбылося прыняцьцё ды агляд выстаўкі. Выстаўка складалася з колькіх вялікіх пано, на якіх адлюстроўвалася сёньняшняе жыцьцё рэспублікі. Ілюстрацыйны матэр'ял быў падабраны ўдала, густоўна разьмешчаны. Пано былі ўпрыгожаныя беларускімі паясамі, тканінамі. На вялікімі стэньдзе былі раскладзеныя беларускія друкі: дзесяцак добрых альбомаў народнага мастацтва і твораў індывідуальных мастакоў. Было паказана шмат іншамоўных выданьняў. Кніжная выстаўка прыцягнула вялікую ўвагу ўдзельнікаў, разам зь фільмам «Белыя Росы» была найбольш удалай часткай Беларускага вечару.

### «ГАНЕБНАЕ МАЎЧАНЬНЕ»

**Пра Алега Бембеля**

На пленуме Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі 20 траўня сёлета Васіль Быкаў у сваёй прамове, асуджаючы рэцыдывы сталіншчыны ў БССР, сказаў:

«Дагэтуль грамадзтва рэспублікі ганебна моўчкі перажывае драматычную гісторыю з кнігай Алега Бембеля. Грунтоўная сацыялягічная праца гэтага вучонага, якую горача ўхваліў у прадмове наш незабыўны сумленны Ўладзімер Караткевіч, стала прычынай звальненьня аўтара з пасады й выключэньня з партыі».

Заўвага гэтая, як і некаторыя іншыя выказваньні В. Быкава (пра іх у наступным нумары «Беларуса»), была выпушчаная зь ягонае прамовы, якую апублікавала газэта «ЛіМ» у нумары за 3.VI.88.

Кніга А. Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс», якую менскія выдавецтвы адмовіліся друкаваць, выйшла ў выдавецтве Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі ў 1985 годзе. Там яе можна й набыць.

Адрас: ZBVB, 52 Penn Rd., London N7 9RE, England.

### *ЮБІЛЕЙ НАТАЛЬЛІ АРСЕНЬНЕВАЙ*

*Беларускія арганізацыі Нью-Ёрку й Нью-Джэрзы ладзяць 19 лістапада (сыбота) прыняцьцё ў гонар паэткі Натальлі Арсеньневай з нагоды 85-х угодкаў ейнага працавітага й плённага жыцьця. Прывітальныя лісты й тэлеграмы трэба слаць на адрас:*

*BINiM*
*230 Springfield Ave.*
*Rutherford, N.J. 07070*

## МЕНСКАЕ ВЫДАНЬНЕ ЭМІГРАЦЫЙНАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Ведамы беларускі пісьменьнік зь Беласточчыны Сакрат Яновіч сказаў у інтэрв'ю на беларускай радыёпраграме «Нёман» у Чыкага пра кантакты зь Беларусамі ў БССР:

«Усё часьцей езьдзім адны да адных. Нефармалы — да нашых студэнтаў, мы, старэйшыя, гасьцюем у менскіх літаратараў, а яны ў нас. Цяпер граніцы вельмі адкрытыя, і ў Менску думаюць выдаваць шматтомны збор беларускай эміграцыйнай літаратуры, між іншага, Арсеньневу, Клішэвіча, Сяднёва ды іншых. Так сьцьвердзіла дэлегацыя пісьменьнікаў зь Менску, якая была на сьвяце 30-годзьдзя нашай літаратурнай арганізацыі 'Белавежа' ў Беластоку».

У інтэр'ю, якое вёў др. Вітаўт Рамук, Сакрат Яновіч сказаў таксама, што ён «вельмі ўражаны функцыяваньнем беларускай культуры ў Новым Сьвеце» (пра што ён будзе пісаць у газэце «Ніва»), расказаў пра сваю пісьменьніцкую працу (аўтар 16 кніжак, зь якіх аднак толькі тры выйшлі пабеларуску, а рэшта — папольску, бо зь беларускім выдавецтвам справа цяжкая) ды пра беларускае культурнае жыцьцё на Беласточчыне.

Цяпер Сакрат Яновіч працуе над кніжкай эсэ, у якой хоча «прасачыць беларускі лёс». «Гэта будзе, — сказаў аўтар, — аповесьць пра маё пакаленьне, напісаная, як гэта звычайна ў пісьменьніка, на ўласным жыцьцёвым матар'яле».

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014



### *ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

Паважаная Рэдакцыя «Беларуса»!

Прашу надрукаваць у газэце мае заўвагі да артыкулу аб беларускай грамадзе ў горадзе Рокфардзе аўтарства «А. А.», выдрукаванага ў сёлетнім чэрвенскім нумары «Беларуса».

1. А. Волах, калі ён жыў у Рокфардзе, ніколі вялікіх абшараў зямлі ня купляў і тут ніколі ня было й няма вуліцаў, названых прозьвішчамі пасяленцаў. Ён таксама ніколі ня быў сябрам камітэту парафіі Хрыста Збаўцы, хоць быў парафіянінам, а найбольш займаўся палітыканствам, гэтак як і А. А.

2. Архіепіскап Мацей наведаў Рокфард не адзін, а два разы — праўда, за кошт А. Волаха, ды на жаданьне прыхаджанаў назначыў сьвятара а. В. Антоніева з Францыі. Калі гэты сьвятар пачаў неспраўляцца із сваімі абавязкамі, архіепіскап яго звольніў з пасады ды прыслаў у парафію а. Ўсевалада Яськова, а не а. П. Яська, як піша А. А. Айцец Усевалад быў шанаваны большнёй прыхаджанаў, аднак па пэўным часе, дзеля сваіх памылак, быў вымушаны пакінуць наш прыход, выехаў з Рокфарду, ды не ў Флярыду, як піша А. А., а ў горад Мілўокі ў штаце Ўісконсын, дзе ён перайшоў у юрысдыкцыю Расейскай Зарубежнай Царквы. Пазьней а. Усевалад быў у Флярыдзе, а апошнія дні свайго жыцьця дажыў у Кліўлендзе.

3. Уладыкі БАПЦ Васіль і Андрэй, як і а. М. Лапіцкі, запрашаліся ў Рокфард і падарожжы ім аплочвала наша грамада. Але калі нам спатрэбіўся сьвятар, ніводзін зь іх ня мог нам яго прыслаць, хоць абяцаньні рабіліся. Уладыка Васіль, а пасьля Андрэй хацелі, каб наш прыход далучыўся да БАПЦ. Аднак нашыя прыхаджане гэтага не захацелі, бо не згадзіліся із статутам БАПЦ.

4. Беларусы гораду Рокфарду мелі добрую сувязь зь іншымі беларускімі асяродкамі. Нажаль, калі ў нашыя нутраныя справы пачалі ўмешвацца іншыя асобы (А. А. адзін з гэткіх!), дык справы пайшлі не найлепш. Беларусы Кліўленду намі ніколі не апякаваліся. Праўда, кліўлендцы прыяжджалі да нас колькі разоў з канцэртамі, гэтак як і рокфардзкія Беларусы езьдзілі ў Кліўленд. Як выглядае, А. А. аб гэтым ня ведае. З Кліўленду да нас перабралася колькі Беларусаў на сталае жыцьцё, але, на вялікі жаль, ім тут нешта не спадабалася, асабліва маладзейшым, дык яны адыйшлі ад беларускае грамады. Гэта аніяк нельга назваць «апякунствам». Тут да месца будзе падкрэсьліць, што нашая царква ніколі да Зарубежнае не належала і ня будзе належаць, бо гэта забаронена нашым статутам. Ізноў-жа А. А. зусім не паінфармаваны ў гэтай справе.

5. Нашай грамадзе было-б карысьней, каб асобы як А. А. намі не апякаваліся ды ня раілі нам, адкуль браць сьвятароў, бо мы бачым, куды падзеліся ў другіх беларускіх парафіях прыбылыя збоку сьвятары, калі ім запахла зарубежжа.

Было-б пажадана ды карысна для будучага вывучэньня беларускага жыцьця ў Амэрыцы, каб гэткія артыкулы пра паасобныя беларускія калёніі пісалі асобы, якія добра ведаюць аб чым пішуць. Нажаль, А. А., узяўшыся расказаць пра Беларусаў Рокфарду, пісаў аб тым, чаго ня ведае. **Валодзя Ракуць**

### ПАПРАЎКА

У выказваньне сп-ні Надзі Кудасавай пра Сустрэчу ў папярэднім нумары памылкова трапілі словы (тры апошнія абзацы), сказаныя сп. Славікам Вініцкім. Перад абаімі выбачаемся за недагляд. *Рэдакцыя «Беларуса»*

## *ХТО ЗАБІЎ ПЯТРА МАШЭРАВА?*

*(Заканчэньне зь 5-й б.)*

Мы далёкія ад таго, каб ідэалізаваць Машэрава і ягоны стыль кіраваньня. Ягоная віна ў сёньняшняй трагічнай сытуацыі з нацыянальнай самасьвядомасьцю Беларусаў, зь іхнай мовай і культурай відавочная. Ён, як і ягоныя папярэднікі сталінскімі часамі, стаў ахвярай таго самага рэжыму, якому служыў верай і праўдай. Ягоны лёс яшчэ раз яскрава сьветчыць, як мала зьмянілася сутнасьць рэжыму, зьмяніліся толькі формы ўжыцьцяўленьня злачынства. Машэраў загінуў не як «вораг народу», агент фашысцкіх разьведак, а як гэрой, у аўрэоле абаронцы беларускіх інтарэсаў. Але ці гэта зьмяняе існасьць злачынства?

Перабудова ўжо ўзьняла і нават высьветліла шмат якія балючыя беларускія праблемы. Робіцца першыя, пакуль яшчэ вельмі сьціплыя крокі з мэтаю іх разьвязаньня. Народ ужо пачуў першую карысьць дэмакратызацыі палітычнага жыцьця. Пачуў народ і свой боль, сваю прыніжаную і растаптаную сталінцамі і брэжнеўцамі нацыянальную годнасьць. Таму цяпер народ зь нецярплівасьцю чакае ад партыі высьвятленьня ўсёй праўды ў справе забойства Машэрава. Патрабаваньне гэтае ўжо прагучэла на пісьменьніцкіх сходах і на моладзежных мітынгах у Менску. **Мікола Перасьвет**

**Ад Рэдакцыі:** У стэнаграфічных матар'ялах з пленуму СП БССР, што адбыўся 19-20 травеня сёлета, якія мае рэдакцыя «Беларуса», ёсьць частка выступленьня пісьменьніка Якутава, які піша цяпер кніжку пра вынішчэньне Масквой дзяржаўных дзеячоў БССР. На пленуме прамоўца (гаварыў ён па-расейску) сказаў:

«Я, можа, і паклаў-бы гэтую кніжку на стол. Рэч у тым, што мне ня ясны канец. Калі вы ў мяне цяпер папытаецеся, ці я магу вам адказаць сур'ёзна, што Пятро Міронавіч загінуў трагічна, я, ну, перад вамі скажу: не, адказаць не магу. Але больш сумленна... (*з залі: «выпадкова!»*) выбачайце, гэта не выпадкова, таварышы. Рэч у тым, што я напісаў запіску (ужо паўгода чакаю): 'Задайце два пытаньні Чурбанаву. Дапусьцеце адваката ў Бутырскую турму'. (*Чурбанава, зяця Брэжнева, цяпер судзяць за карупцыю — рэд. «Б-са»*).

«Як гэта здарылася, што яны правялі ўсю гэтую справу — са Шчолакавам (*Шчолакаў, міністар брэжнеўскіх часоў, скончыў самагубствам яшчэ да суду — рэд. «Б-са»*), улічваючы, што ў іх былі... (*далей неразборліва — рэд. «Б-са»*). Яны пачалі распраўляцца із сваімі супраціўнікамі. А Пятро Міронавіч быў... як, вось ведаеце, бяльмо ў воку. Вось у чым справа. Я ня буду тут шмат гаварыць (распространяться). Вы зразумейце, як гэта горка, як цяжка гаварыць, калі ўсе нашы дзеячы пагінулі зь ініцыятывы кіраўнікоў з Крамля».

### *ЮБІЛЕЙНЫ БЛЯКНОТ*




Беларускі Каардынацыйны Камітэт у Чыкага выдаў да 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі юбілейныя блякноты фарматам 5,5 на 8,5 інча. У блякноце 50 лісткоў. Цана зь перасылкаю: 1,50 дал. за сшытак. Заказы пасылаць на адрас Камітэту:

Bielarusian Coordinating Committee
P.O. Box 34022
Chicago, Ill. 60634

### *ПАРАДА «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»*

Таварышы прапагандысты (Вацлаў Мацкевіч і рэшта)! Заміж таго, каб плявузгаць бясконца пра нябожчыкаў-«белбуржнацаў» ды Джона Лофтуса, пра якіх у вас даволі цьмянае паняцьце (як гэта лішні раз відаць зь перапеву вашых фэльетонаў (у кніжыцы «Двайная гульня», 1988), ды заміж таго, каб прапанаваць Беларусам на эміграцыі сьпяваць народную песьню «Купалінку» парасейску (зб. «Мой родны кут», 1987, б. 53), раскажэце лепш пра Курапаты, пра песьні маладых беларускіх бардаў, пра дэрусыфікацыю Беларусі, а разам з тым і пра тое, як ліквідуецца ў рэспубліцы дэфіцыт зубное пасты, мыла ды туалетная паперы (якая й вам прыдалася-б).

### ЦАНА «БЕЛАРУСА»

У выніку росту коштаў паперы й рассылкі газэты мы змушаныя паднясьць цану паасобнага нумару да двух даляраў, а цану гадавое падпіскі да 20 даляраў, пачынаючы ад 1-га студзеня 1989 году.

**Выдавецтва «Беларус»**

### КАШУЛІ З «ПАГОНЯЙ»

Белыя кароткарукаўкі з каляровым нагрудным адбіткам Пагоні ўсярэдзіне гэрбаў беларускіх ваяводзтваў, зробленыя беларускай фірмай у Чыкага, можна набыць праз. сп. Міколу Дутка: Mr. N. Dutko, 712 Foothill Rd., Bridgewater, N.J. 08807.

Кашулі ў чатырох разьмерах. Цана: 8 дал.

### *КАЛЯДНЫЯ ВІТАНЬНІ ПРАЗЬ «БЕЛАРУСА»*

Як штагоду, «Беларус» ахвоча зьмесьціць Вашыя калядна-навагоднія прывітаньні сваяком, сябром і знаёмым, калі Вы паведаміце нам аб сваім жаданьні да 1-га сьнежня. Будзем удзячныя за грашовую ахвяру пры гэтай нагодзе на выдавецтва газэты «Беларус».

**Рэдакцыя «Беларуса»**

### *ІДЭЯ НА КАЛЯДНЫ ПАДАРУНАК!*

Падпішэцеся для сваяка, знаёмага, або суродзіча на Беласточчыне на газэту «Беларус».

### ПРАФСАЮЗЫ БАРОНЯЦЬ М. КУКАБАКУ

Як паведаміла радыё «Свабода» 7.X.88, Міжнародная Канфэдэрацыя Свабодных прафсаюзаў заклікала Старшыню Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету СССР Гарбачова вызваліць зьняволенага работніка Міхала Кукабаку.

### ПРА ЗЛАЧЫНСТВА Ў КУРАПАТАХ ВЕДАЕ ЦЭЛЫ СЬВЕТ

Усе заходнія газэты, большыя і меншыя, падалі пра выдрукаваны ў верасьнёўскім нумары маскоўскага часапісу «Огонёк» артыкул беларускага пісьменьніка Алеся Адамовіча аб масавых магілах ахвяраў сталінізму ў Курапацкім лесе на ўскраіне Менску.

Ранейшыя паведамленьні заходніх органаў друку пра Курапаты базаваліся на артыкуле ў газэце «Московские Новости», якая падала пра матар'ял, апублікаваны ў менскім тыднёвіку «Літаратура і Мастацтва».

Рэдакцыя «Беларуса» шчыра дзякуе ўсім чытачом за прысланыя выразкі з заходніх газэт з паведамленьнямі пра Курапаты. Просім прысалаць гэткія матар'ялы і ў будучыні.

Вялікі артыкул пра Курапаты, нарыс Зянона Пазьняка пад заг. «Шумяць над магілай сосны. Пасьля раскопак у Курапатах», зьмясьціла газэта «ЛіМ» за 16.IX.88.

### *ПІСЬМОВАЯ ПАПЕРА «ВАСІЛЬКА»*

Пішэце лісты на прыгожай пісьмовай паперы, выдадзенай гуртком «Васілёк». Папера фарматам 10,5 на 7,25 інча з чырвоным народным арнамэнтам або сінімі васількамі ўздоўж левага боку.

У пакеце 15 лісткоў і 10 канвэртаў. Цана за пакет: 5 дал. плюс 2 дал. за перасылку заказу. Пісаць на адрас:

Vasilok
c/o Halina Bachar
31 Brookside Ave.
New Brunswick, N.J. 08901

**PERFECT YOUR BYELORUSSIAN**

FUNDAMENTAL BYELORUSSIAN
*by Valentina Pashkievich*, 2 Vols.

This excellent textbook, published by the Byelorussian-Canadian Coordinating Committee in Toronto, Ont., can be obtained through our newspaper. Price: $35.00 (including shipment). Both volumes contain over 200 pages of Byelorussian-English and English-Byelorussian glossaries.

### ДЗЯКУЕМ ЗА ПРЭСАВЫЯ ВЫРАЗКІ

Выразкі й ксэракопіі паведамленьняў і артыкулаў у замежным друку, у якіх згадаваецца Беларусь, нам прыслалі: сп.сп. У. Акавіты, А. Акановіч, П. Барысік, М. Грэбень, др. Р. Жук-Грышкевіч, Ю. Каляда, С. Карніловіч, А. Лашук, В. Мельяновіч, Арх. Мікалай, Я. Мойсік, Я. Міхалюк, М. Раецкі, В. Ракуць, др. В. Рамук, А. Субота, др. а. Р. Тамушанскі, М. Шведзюк, Л. Шурак, сп-ня В. Яновіч.

Усім шчыра дзякуем!

**Рэдакцыя «Беларуса»**

© PDF: Kamunikat.org 2014 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2014